БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 9 (13541)

24 лютага — 1 сакавіка 1992 года

Цана 1 рубель 50 кап. (па падпісцы — 35 кап.)

*У нумары:*



# КУДЫ СКІРАВАЦЬ КАРАБЕЛЬ?



**Узаемаадносіны заснавальніка і газеты...** Цяпер, калі сам нячысцік не разбярэцца, каму належыць той ці іншы орган, калі кошт паперы і паслуг распаўсюджвальнікаў узняўся да астранамічных лічбаў, калі зарплата журналіста меншая за зарплату прыбіральшчыцы, найбольш востра стала пытанне аб выжыванні. Удзельнікі II пленума ЦК СМБ, які адбыўся 25 лютага, далі беларускай прэсе, што раней залежала ад волі маладзёжных лідэраў, зялёную вуліцу. Гэта выразілася ў тым, што ЦК СМБ адмовіўся ад заснавальніцтва часопісаў "Вясёлка", "Крыніца", выйшаў са складу заснавальнікаў часопіса "Маладосць", а таксама вырашыў перадаць правы заснавальніка газеты "Знамя юности" яе працоўнаму калектыву.

Няўжо ЦК усё ж такі вырашыў вызваліць ад свайго ўплыву маладзёжныя выданні? Не, да такога альтруізму ў ЦК СМБ яшчэ не дайшлі. Прычына самая прагматычная – няма грошай. Некаторыя з удзельнікаў пленума білі сябе ў грудзі, маўляў, як жа гэта мы кінем на волю лёсу нашы газеты? Але ўсе словы разбіваліся аб халодныя маўклівыя лічбы. Толькі ад адной "Знаменки" выдаткі дасягнуць 25 000 000 рублёў. Такіх сродкаў у СМБ няма. Як заявіў першы сакратар ЦК СМБ Аляксандр Фядута, "Знамя юности" не прападзе, і паказаў паперу, на якой чорным па беламу было напісана, што адна з фірм згодна стаць фундатарам газеты.

А што ж наша "Чырвонка"? У мінулым нумары мы заявілі, што хочам стаць незалежнымі. Справа ў тым, што мы былі незалежнымі заўсёды – незалежнымі ў сваім розуме, у сваёй душы. Цяпер, дзякуючы дзяржаўнай датацыі, на жаль, не поўнай, мы маем магчымасць стаць хоць крыху матэрыяльна незалежнымі. ЦК СМБ прапанаваў калектыву стаць сузаснавальнікам "Чырвонай змены". Відаць, так і будзе. Гэтае рашэнне абгрунтавана тымі матывамі, што ЦК Саюза моладзі Беларусі абавязаўся не рабіць на рэдакцыю ніякага націску, свае адносіны з ёй будаваць на базе партнёрства.

**Алесь Палынскі.**

## ALFA

# ПАПРОСТУ

Барон Мюнхгаўзен у папулярным тэлефільме "Той самы Мюнхгаўзен" заўважыў:"Усе глупствы на свеце робяцца менавіта з гэтым, сур'ёзным, выразам твару!" У нашым нумары і так, шаноўны чытач, дастаткова сур'ёзу. Таму мне хочацца скарыстаць права вета дзяжурнага рэдактара і ў гэтай калонцы распавядаць не пра глабальна-сур'ёзныя рэчы, а расказаць невялічкую цікавую гісторыю.

Неяк ехала ў таксі з жанчынкай. Слова за словам – пайшла гаворка пра цэны, грошы (яшчэ да падаражання). Таксіст – каржакаваты, вясковага выгляду дзядзька (рускія словы з выдатным беларускім вымаўленнем) распавёў пра выпадак, які не мог, як ён сказаў, успамінаць без шкадавання... Неяк падвозіў чарговую пасажырку. Тая расплацілася і шпарка пабегла прэчкі. Праехаўшы колькі часу, таксіст выпадкова зірнуў на падлогу. Там ляжаў кашалёк. Пацікавіўся змесцівам. Тысяча рублёў з гакам (да павышэння цэнаў! – ад аўт.). Ясна, што ён выслізнуў з рыдыкюля маладой пасажыркі. Адразу прыгадаў, што тая спяшалася на працу і дарожная гаворка ішла пра краму, тавар, куплю-продаж. Тармазнуў і вярнуўся на тое месца, дзе выйшла дзяўчына. Побач – прамтаварная крама. Зайшоў. Авохці! Сядзіць на касе нядаўняя пасажырка, з сяброўкай пра нештачка гаворыць, як ні ў чым ні бывала: відаць, яшчэ не спахапілася. Тут наш таксіст да яе. Ці не ваша,кажа, згуба. Тая далонькамі пляснула, вохнула, дзякуй, маўляў. А наш расказчык не будзь прастаком, намякае – нядрэнна было б на каньячок даць. Тая яму адшукала ў стосе купюр чырвонец. Дзядзька скрывіўся. Малавата, але што зробіш, доранаму каню ў зубы не глядзяць. Сеў за руль і задумаўся... Пакуль вёз грошы, аддаваў, аніякіх сумненняў і блізка не было. А аддаў – відаць, д'ябал стаў ягоныя думкі блытаць. Пашкадаваў, далібог, пашкадаваў. І з таго часу не дае яму спакою гэтая тысяча рублёў. Як падумае, што мог бы пакінуць сабе, і аніхто б пра гэта не ведаў, ледзь не плача ад прыкрасці.

Жанчынка, мая спадарожніца, пачала павучальна даводзіць таксісту: "Вы можаце быць абсалютна ўпэўнены – гэтыя грошы вам нізавошта не прынеслі б дабра. Вы правільна зрабілі. За гэта вам адплаціць Бог. Вы душу сваю выратавалі, устаялі перад спакусай". Пад час гэтай пропаведзі дзядзька згодна ківаў галавой. І пачало ўжо здавацца, што прасякнутыя боскасцю словы, нарэшце, пазбавілі ад пакут мяцежную душу. Нат падалося – вось-вось німб зазіхаціць над ускалмачанай дзядзькавай галавой. Ён глыбока ўздыхнуў... Мы падрыхтаваліся пачуць удзячнасць за "настаўленне на шлях ісціны" і..."правільна вы кажаце, але... усё-такі шкада тых грошай, ажно тысяча рублёў". Мне стала смешна: такі кантраст паміж узнёсла-натхнёным, насычаным духоўнай верай маналогам і шчырым шкадаваннем, што "дзякуй" за пазуху не пакладзеш. Гэткі ж кантраст паміж нашымі найлепшымі памкненнямі і непрывабнай рэчаіснасцю і ўсё-ткі... Людцы, любіце адзін аднаго такімі, якія вы ёсць на самай справе: з усімі вашымі слабасцямі, недахопамі. Нам бракуе дабрыні. Мы задыхаемся без яе ў гэтым невыносна жорсткім свеце. Не будзем жа пазбаўляць адзін аднаго апошняй надзеі, шматочку кволай веры...

**Алена Агібалава.**

*Актуальны рэпартаж*

# ПІЦЬ АБО НЕ ПІЦЬ?..

Зусім нядаўна, усяго некалькі гадоў таму, у нашай краіне (тады яшчэ СССР) была распачата антыалкагольная кампанія. Крыху пазней мы пачулі пра высечаныя па-варварску вінаграднікі, пра загубленае абсталяванне з вінна-гарэлачных заводаў, пра тое, колькі людзей пацярпела ад гэтага.

Зараз крыху адумаліся. Зноў адкрываюцца вінна-гарэлачныя заводы, зноў абсталёўваюцца... А як жа адчуваюць сябе ў гэтай кругаверці людзі, якія непасрэдна звязаны з "зялёным змеем", людзі, што выпускаюць гарэлку? Для таго, каб адказаць на гэтае пытанне, я звярнуўся да Юрыя Анісімавіча Піліпенкі, дырэктара галаўнога завода "Крышталь":

*— А каму гэта ўсё цікава? Вам? Ці, можа, чытачам? А нам гэта нецікава. Зараз усе кінуліся нас абараняць. А нас трэба было адстойваць раней, калі пачалася барацьба з п'янствам. Цяпер ужо нават надакучылі "заступнікі". Лепш пагаворым пра тое, што чакае нас наперадзе. Пачну хаця б з таго, што катастрафічна не хапае посуду. А шклозаводы не працуюць. Вось і выкручвайся як хочаш. Менавіта таму, з-за недахопу посуду, шмат гарэлкі выпускаецца ў піўных бутэльках. Не лепш выглядаюць справы і з перавозкамі: у краіне няма поліэтылену — няма і скрынь. А калі няма скрынь, дык няма як і гарэлку перавозіць... Кінулі выпускаць абсталяванне для вінна-гарэлачных заводаў.*

— Але не апускаць жа рукі?

*— Зараз мы робім усё, што магчыма. Прапануецца штогод выпускаць тры мільёны дэкалітраў гарэлкі (1 дэкалітр — гэта 10 літраў). Гэта толькі на "Крышталі". Атрымліваецца прыкладна два дэкалітры (сорак бутэлек) гарэлкі ў год на кожнага жыхара Мінска. Зараз асвоілі вытворчасць гарэлкі "Белая Русь", якая гатуецца на спірце павышанай якасці. Гэта выдатная гарэлка, але аўтарытэт яе яшчэ маленькі: яе выпускаюць пакуль што няшмат.*



*У сувязі з тым, што рэзка ўзрос кошт віна матэрыялаў, мы адмаўляемся ад іх, а будзем выпускаць настойкі з нашай беларускай сыравіны. Такія, напрыклад, як "Зуброўка", "Белавежская", "Налібокская", "Заслаўская" (яны настоены на травах). Яшчэ трэба дадаць, што магутнасць "Крышталя" дае нам магчымасць павялічыць выпуск гарэлкі прыкладна на 5 працэнтаў, што мы і плануем рабіць. Толькі быў бы посуд і... спірт.*

Ю.А.Піліпенка дадаў, што пры сённяшнім вар'яцкім росце цэн выпуск гарэлкі можа стаць нерэнтабельным."Крышталь" пакуль што выкарыстоўвае наш беларускі спірт, які каштуе 120—170 рублёў за дэкалітр. А вінна-гарэлачныя заводы Брэста і Гомеля, якія закупляюць спірт на Украіне, знаходзяцца ўжо на мяжы спынення з-за цэн на сыравіну. А што можна зрабіць для таго, каб знізіць цэны на спірт? Адказ адзін: знізіць цану на збожжа. Калі раней тона яго каштавала 500—700 рублёў, то зараз дасягае 7—9 тысяч. А пры такім кошце выпуск спірту нерэнтабельны. Так што не спяшайцеся хаваць самагонныя апараты. Будзем самі вырашаць пытанне: піць або не піць.

**Ф.Лявіцкі,**
**студэнт журфака БДУ.**

*Моладзь і час*

# АПТЫМІСТЫЧНЫ НЕКРАЛОГ

Відаць, многія з жыхароў Беларусі і не ведаюць, што існуе ў нашай рэспубліцы маладзёжная арганізацыя, якая замяніла камсамол. Але камсамольская спадчына не згінула, і аб гэтым сведчыць другі пленум ЦК СМБ, які адбыўся ў аўторак, 25 лютага.

А пачалася гэтая імпрэза з заявы двух сакратароў ЦК – Асіпенкі і Барэйкі аб тым, што яны саступаюць свае месца іншым. Аляксандр Фядута, першы сакратар ЦК, прапанаваў свае кандыдатуры, але... прадстаўнікі апарату, які на месцах скараціўся часам на дзве траціны, не пагадзіліся з тым, каб колькасць сакратароў ЦК засталася ранейшай. Апаратныя пертурбацыі скончыліся такім чынам: пасаду двух сакратароў заняў адзін чалавек – былы сакратар камітэта камсамола БПА Сяргей Даронін, а пасаду другога сакратара заняў Валерый Варанецкі. Пасля дыскусіі я ўзяў невялічкае інтэрв'ю ў Аляксандра Фядуты. Ён заявіў, што ніякай рэвалюцыі, ніякага расколу не адбылося, як не адбылося кардынальнай змены курсу арганізацыі. Проста ідзе працэс "прыціранкя" першага сакратара і бюро. "Мы вучымся працаваць разам,– адзначыў А.Фядута.– У дэмакратычнай атмасферы пленума парушаецца няпісаная традыцыя – члены бюро ўжо выступаюць, не азіраючыся на першага сакратара". На пытанне, як ён ставіцца да групы Сяргея Вазняка, А.Фядута адказаў: "Бог з імі, хай жывуць. Я быў на іх з'ездзе, згодны з імі не ва ўсім, але яны маюць права адстойваць свае перакананні. А наконт таго, што ЛКСМБ жадае стаць калектыўным членам СМБ, я магу сказаць адно: ЛКСМБ – грамадска-палітычная арганізацыя, а, паводле нашага статута, мы палітыкай не займаемся. Тут чыста юрыдычная супярэчлівасць".

Калі сказаць шчыра, на пленуме не было вызначана ніякіх шляхоў для захавання арганізацыі. Сапраўды, калі СМБ паставіла сваёй задачай сацыяльную абарону, дык яна і павінна гэтым займацца. Сацыяльная ж абарона каштуе такіх грошай, якіх у СМБ няма і ў перспектыве не будзе. Ці значыць гэта, што СМБ у тупіку? Можа і так. У наш час моладзь можа пайсці ў арганізацыю толькі тады, калі яна зможа ёй нешта даць. Прагматызм? Так, але менавіта на гэтым грунтуюцца словы А.Фядуты:"Асноўнае зараз для нас – гэта разумны сэнс і інстынкт самазахавання".

Хутчэй за ўсё, гэта не апошні пленум ЦК СМБ. Арганізацыя выкараскаецца. Але якія страты панясе – вядома аднаму толькі Богу. Таму і падобныя былі выступленні членаў ЦК на некралогі. Але на некралогі аптымістычныя.

**А.П.**

## *Тэлетайп*

### Цана: 1 зубр 50 зайцоў

Нягледзячы на сакрэтнасць, з якой у Беларусі вядзецца падрыхтоўка да выпуску ўласных грошай, з кампетэнтных крыніц стала вядома, што ўжо распрацаваны эскізы як шматразовых купонаў, так і паўнавартаснай нацыянальнай валюты. Мяркуецца, што на купонах будуць выявы жывёлін. Чым вышэй вартасць купона, тым буйнейшая і жывёліна: ад ваверкі да зубра. Што тычыцца паўнавартасных грошай, то іх упрыгожаць не толькі жывёліны, але і партрэты вядомых гістарычных дзеячаў Беларусі, а на 1000-й купюры будзе выява фрагментаў Грунвальдскай бітвы.

### Улада для бізнесменаў

У Дзень Узброеных Сіл свой сапраўдны твар паказала дэмакратычнае кіраўніцтва Масквы. Насустрач несанкцыяніраванаму шэсцю жыхароў сталіцы, якія накіроўваліся ўскласці кветкі да магілы Невядомага салдата, быў кінуты мясцовы атрад міліцыі асобага прызначэння. Мірных дэманстрантаў білі дубінкамі – "дэмакратызатарамі" і ботамі, не шкадавалі нават жанчын.

Гэтым жа вечарам мэр горада Масквы Гаўрыіл Папоў з'явіўся на тэлеэкране ў перадачы "Палітычная кухня" і заявіў, што ўлада існуе не для нейкага надуманага камуністамі народа, а дзеля дапамогі бізнесменам і прадпрымальнікам, якія зробяць дзяржаву багацейшай.

### У сям'і журналістаў — папаўненне

Узначаліўшы фонд свайго імя, Міхаіл Гарбачоў вырашыў пашчыраваць і на журналісцкай ніве. Былы дзяржаўны дзеяч СССР № 1 даў згоду рэгулярна пісаць каментарыі для турынскай газеты "Стампа". Будзем спадзявацца, што ганарары ў М.Гарбачова будуць значна вышэйшыя, чым у журналістаў "Чырвонай змены".

# КУР'ЕР ТЫДНЯ

## *"ЛіМу" 60 гадоў. Віншуем! Зычым больш аптымізму ў наш нялёгкі час.*

*Мікола ГІЛЬ, галоўны рэдактар "ЛіМа"*



Баліць сэрца...

Баліць само па сабе. Баліць і ад таго, што ўсё ў нас не як у людзей. Кульгае, бы надарваны конь, наша эканоміка, прадвяшчаючы суцэльную анархію вытворчасці. Шалеюць цэны, і мы, гледзячы на гэтае шаленства, сёння яшчэ няўцямна пасміхаемся, хоць заўтра,хутчэй за ўсё, заплачам. Загадзя забяспечыўшы сябе парашутамі, былыя партбосы розных узроўняў шчасліва апусціліся ў новыя крэслы, нібы ўсё жыццё толькі і рыхтавалі сябе да ролі банкіраў, менеджэраў, бізнесменаў.

А найперш ад таго баліць яно, што за гады савецкага гаспадарання запанавала паўсюль ленасць і абыякавасць душы нашых людзей, што летаргічным сном спіць наша нацыянальная свядомасць, што выраслі цэлыя пакаленні нацыянальных манкуртаў. Не збудзілі нас гады рабства, не выспелілі ў душах магутны і нязломны парыў да свабоды, творчасці і годнага чалавечага жыцця. Не збудзіла, не з'яднала нас і Чарнобыльшчына. Дык што ж нас урэшце скалане, згуртуе дзеля вялікай работы па адраджэнню, адбудове нацыі, па стварэнню незалежнай і дэмакратычнай Беларусі?

З гэтае прычыны і лімаўскі юбілей атрымліваецца невясёлы. 60 гадоў — ладны кавалак часу, ён увабраў у сябе мноства вялікіх і малых падзей, жыцці не аднаго пакалення, але абставіны ў гатыя гады былі такія, што нішчылі плён работы, губілі кінутае ў гоні зерне, дратавалі ўсходы. Як ні горка гэта ўсведамляць, аднак жа міжволі даводзіцца сумнявацца: ці не сёння гэта напісаны балючыя, роспачныя купалаўскія радкі пра панскую трывогу, забітую з прычыны таго, што беларус азваўся сваім словам, ці, скажам, радкі Багдановіча пра абакрадзеную душу беларуса, у якой нават і мовы няма?!

Ды — маўчы, сэрца, сціскайся, трывай і працуй, покуль змога! Бо — трэба сеяць! Бо толькі сяўба — зарука жніва! Бо ніхто іншы нашай работы за нас не зробіць...

*Міхась ЗАМСКІ, рэдактар аддзела публіцыстыкі.*



Мяне вельмі трывожыць пэўны раскол дэмакратычнага руху ў былым СССР, чаго, на жаль, не пазбегла і наша рэспубліка.

Застаецца толькі "радавацца", што партрэты Сталіна яшчэ не "лунаюць" над калонамі прыхільнікаў "камуністычнага шляху" на вуліцах гарадоў Беларусі, як гэта адбываецца ў Маскве, Пецярбургу, Саратаве, іншых мясцінах былога Саюза. Але няма гарантыі, што чырвона-карычневая чума не перакінецца на нашы абшары. І ў нашай рэспубліцы мацнее і пашыраецца сацыяльная база для рэакцыйных сіл. Чыкіны пастараюцца гэтую акалічнасць выкарыстаць.

Я пра гэта неаднойчы пісаў у "ЛіМе", паўтару яшчэ раз: па маім глыбокім перакананні, пасля жнівеньскіх падзей дэмакратычныя сілы зрабілі гістарычную памылку, не дамогшыся аб'яўлення КПСС, камуністычнай ідэалогіі па-за законам, як гэта было зроблена ў Нюрнбургу ў адносінах нацысцкай партыі Германіі.

*Юрась СВІРКА, загадчык аддзела паэзіі*



*Данчыку*

...Як быццам ён прывёз жывую спадчыну,
Без выкупу яе перадае.
Ён песні беларускія, як матчыны,
На мове нашай салаўём пяе.

Дык што ж мы, без'языкія, зрабілі,
Хто абакраў нас, хто завёў у зман?
Як быццам, сваю песню мы згубілі,
Сплыла яна за мора-акіян.

Як быццам на чужыне засталася
Крычаць альбо маліцца ад душы,
Каб не прывозіць нам у блізкім часе
Жалейкавы свой голас з-за мяжы.

*Партыі,рухі. Бег навыперадкі*

# Раскол у БНФ

## Плёткі ці праўда?



## "Выйшлі мы ўсе з Народнага..."

Спадар Алег ТРУСАЎ, намеснік Старшыні Цэнтральнай Рады БСДГ – Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады, сябра Сойму БНФ, намеснік сп.Зянона Пазняка па парламенцкай апазіцыі. Дарэчы, да шэрагу пасад варта дадаць ледзь ці не самую галоўную (для дадзенага *моманту) місію Алега Трусава: сярод 35-ці* чалавек, што ўтварылі гадоў колькі таму аргкамітэт БНФ, быў і Алег Анатольевіч. Чытайма ж каментар спадара Трусава да цяперашніх зносін паміж бэнэфаўцамі і грамадоўцамі:

– Адносіны засталіся тыя ж, якія й былі – на мінулым узроўні. Дый нелагічна чакаць іншага: касцяк Фронту, сябры БНФ на дзве трэціны – грамадоўцы. Заўважу, не проста сябры, а менавіта актывісты БНФ. Шэсць ці сем прадстаўнікоў Грамады з'яўляюцца нават сябрамі фронтаўскага Сойму. Такім чынам, у Грамады самая моцная партыйная фракцыя ў кіраўніцтве БНФ. Сёння некаторыя журналісты вельмі хочуць пасварыць Фронт і Грамаду. За спінамі першых – зацікаўленыя ў звадцы паміж дэмакратычнымі плынямі сілы. Яны выдаткоўваюць, як стала вядома апошнім часам, шмат грошай на кампанію нацкоўвання руху на дэмакратычныя партыі і наадварот.

– У вас ёсць канкрэтныя факты?

– Зразумейце, гэта ж не выглядае так, як у нейкім бальшавіцкім рамане: прыязджае агент ЦРУ з напакаваным грашыма чамаданчыкам і некага падкуплівае...

– Я ўсвядоміла, што канкрэтныя прыклады вы не назавяце.

– Пакуль што проста не магу. Грамада – адна з самых вялікіх партыяў, якая неадступна і няўхільна ідзе да незалежнасці Беларусі на нацыянальным грунце. У нас (грамадоўцаў і фронтаўцаў) – сапраўдны плюралізм думак і палітычных поглядаў у адрозненне ад былой КПБ–КПСС. У Пазняка – свой погляд, у Ткачова – свой і г.д. Такая з'ява нармальная. Насцярожваць павінна якраз адваротнае. Таму аніякага размяжоўвання паміж Фронтам і Грамадой на самай справе не было і няма.

– Юры Хадыка ўпікнуў Грамаду ў супрацоўніцтве з "афіцыйнымі" прафсаюзамі. Ваша стаўленне да гэтай заўвагі?

– Сацыял-дэмакраты заўсёды вызначаліся сваёй спагадай да прафсаюзаў. Увогуле без супрацоўніцтва з прафсаюзамі сацыял-дэмакратыя ня можа існаваць. На сёння Грамада кантактуе з двума прафсаюзнымі супольнасцямі: у галіне радыёэлектронікі і машынабудавання. Які з іх "афіцыйны"? Так, напрыклад, адзін з кіраўнікоў азначаных саюзаў спадар Бухвостаў зарганізоўваў першыя страйкі ў Гомелі.

– Мо спадар Хадыка мае на ўвазе стварэнне блоку "Новая Беларусь", ініцыяванае Грамадой?

– У гэтым блоку, акрамя двух азначаных, маецца яшчэ Саюз прадпрымальнікаў (вось гэты, дарэчы, ужо дакладна ніяк не стасуецца да слова "афіцыйны"). Акрамя трох прафесійных саюзаў, у "Новую Беларусь" увайшлі таксама: уласна Грамада, Сялянская партыя, Саюз "Чарнобыль", астатнія ж – са статусам назіральнікаў, у тым ліку і БНФ. Дарэчы, назіральнікам ад БНФ з'яўляецца спадар Хадыка. Няхай часцей прыходзіць на пасяджэнні "Новай Беларусі" (смяецца). На сённяшні дзень, лічу, наогул немэтазгодна ўжываць азначэнне "афіцыйныя прафсаюзы", бо ўсе яны, нават згуртаванне Міхаіла Собаля, з'яўляюцца афіцыйна зарэгістраванымі.

– Грамада, як вядома, не адразу далучылася да заявы аб падтрымцы рэферэндуму, што, пэўна, і паслужыла для журналістаў падставай у меркаваннях наконт расколу БНФ?

– Грамада папросту не магла далучыцца тэрмінова, бо па Статуту неабходна папярэдне абмяркоўваць кожнае пытанне на Цэнтральнай Радзе і выносіць рашэнне супольна. Прыкладна трыццаць працэнтаў "радаўцаў" выказалася супраць рэферэндуму, большасць – за. Грамада не збіраецца нават для самых святых дэмакратычных мэтаў пераступаць праз унутрыпартыйную дэмакратыю. Падводжу рыску пад вышэй сказанае: аніякага расколу паміж БНФ і Грамадой няма. Ёсць сапраўдная шматпартыйнасць, плюралізм у меркаваннях.

– На гэтым вынёску, пэўне, і спынімся. Дарэчы, незалежна ад вас, падобную думку выказаў нашаму карэспандэнту спадар Хадыка.

**Замест фіналу.** Ясна адно: Фронт і Грамада не збіраюцца паўтараць сумнавядомы таталітарны вопыт Кампартыі і дасягаць адзінства сваіх шыхтоў самыміневераготнымі чыннікамі. Да таго ж абедзве сілы не грашаць "падпольшчынай": імкнуцца не да знешняга аднадумства (што, канешне, было б больш выгадным ва ўмовах далейшага супрацьстаяння розных палітычных сіл), а да сапраўднай, няхай сабе і з шурпатасцямі, згоды.

Чутку правярала
палітычны рэдактар "ЧЗ"
Алена Агібалава, тэл.39-87-94.

Фота С.Брушко.



## «Чалавек мусіць мець свабоду волі»

Юры ХАДЫКА, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, загадчык лабараторыі Інстытута фізікі АН Беларусі. Намеснік Старшыні Беларускага Народнага Фронту.

– Людзі, арганізацыі, партыі, якія ўвайшлі ў блок "Новая Беларусь", маюць шчыльныя сувязі з БНФ. У дэмакратычным руху Беларусі існуюць розныя плыні. На мой погляд, прычын утварэння такой сітуацыі некалькі. Па-першае, пэўная частка людзей, якія ў свой час дзейнічалі ў складзе Фронту, палічылі неабходным пашырэнне сацыяльнай базы дэмакратычнага руху. Сёння гэта робіцца шляхам далучэння да яго прафесійных саюзаў. І тут узнікла першае адрозненне паміж сацыяльнымі бакамі БНФ і партыямі, што стварылі новы блок. У склад апошняга ўвайшлі прадстаўнікі афіцыйных прафсаюзаў.

На мой погляд, гэта рызыкоўная палітыка. Мы не збіраемся даваць ацэнку людзям, якіх лічым за сваіх паплечнікаў, але ў паведамленні Управы БНФ, якая была падтрымана на пасяджэнні Сойму, ясна сказана: супрацоўніцтва з афіцыйнымі прафсаюзамі – учарашняй "школай камунізму" – стварае магчымасць удзелу ў палітыцы былое камуністычнае наменклатуры, хай не найвышэйшага ўзроўню. У адрозненне ад "Новай Беларусі", для БНФ такое пашырэнне не з'яўляецца магчымым, бо гэтыя арганізацыі, нягледзячы на сваю масавасць, ня ёсць сапраўдныя прадстаўнікі інтарэсаў рабочых. Гэта паказалі вынікі мінулагодняй хвалі красавіцкіх страйкаў, а таксама іхнія спробы абараніць рабочых у перыяд павышэння цэнаў. Фронт у сваёй дзейнасці апіраецца на маладыя, сапраўды дэмакратычныя структуры рабочага руху – незалежныя прафсаюзы, сацыяльная і палітычная арыентацыя якіх нам вельмі блізкая.

Другая прычына падзелу ў дэмакратычным руху, на мой погляд, выключна суб'ектыўная. Напрыканцы васьмідзесятых гадоў, пад час свайго ўтварэння, Фронт быў адзінай апазіцыйнай арганізацыяй КПБ–КПСС на Беларусі. Ён злучыў усе палітычныя сілы, што знаходзіліся ў стане супрацьстаяння да ўлады. Але ва ўсім свеце дэмакратычныя рухі, якія не аб'ядноўвае жорсткая дысцыпліна таталітарных партый, распадаюцца на розныя плыні. Гэта нармальная з'ява. Чалавек ва ўмовах дэмакратычнага грамадства мусіць мець свабоду волі, ён будзе імкнуцца да найбольш поўнай рэалізацыі сваіх поглядаў і памкненняў. І калі людзі, што стаялі ля вытокаў дэмакратычнага руху рэспублікі, імкнуцца ажыццявіць свае намеры стварэннем новага палітычнага блоку, мы не лічым мэтазгодным з імі змагацца.

Дарэчы, тыя, хто імкнецца да самавыяўлення, таксама разумеюць неабходнасць аб'яднання. Менавіта гэтым і спароджаны блок "Новая Беларусь".

Я мушу падкрэсліць пазіцыю БНФ адносна палітычных аб'яднанняў. Дзеля іхняга ўтварэння павінны існаваць рэальныя палітычныя ўмовы і матывы. Зараз, калі пачаўся збор подпісаў за рэферэндум і сталася рэальнасцю магчымасць новых выбараў у Вярхоўны Савет Беларусі, стварэнне новага блоку палітычных партый можна разглядаць як іхняе аб'яднанне перад выбарчай кампаніяй. Палітычная сітуацыя ў Беларусі вызначаецца адсутнасцю партый правага накірунку, якія існуюць, бадай, ва ўсіх рэспубліках былога СССР. У такіх умовах магчыма ўзмацненне ўплыву партый лева-цэнтрысцкай арыентацыі, якія, на мой погляд, прадстаўляе "Новая Беларусь". БНФ – надпартыйнае аб'яднанне цэнтрысцкага накірунку, не ўвайшоў у блок па шэрагу прычын, галоўная з якіх тая, што Фронт карыстаецца дастатковым уплывам, каб прымаць удзел у жыцці рэспублікі ў якасці самастойнае палітычнае сілы.

Як бы ні развіваліся падзеі ў палітычным жыцці Беларусі, трэба зазначыць: размежаванне, якое існуе паміж дэмакратамі, наўрад ці створыць перашкоды дзейнасці апазіцыі. Падставаў да супольнае дзейнасці існуе значна больш, чым для разыходжанняў.

Занатаваў Уладзя Панада.

Фота аўтара.

# ДА "НОВАЙ ЗЯМЛІ"

## пры дапамозе дзядзькі Міхася з Кліўленда

**Сёння ўжо не толькі заходнія краіны без вялікай ахвоты выкладваюць грошы на фінансавую і матэрыяльную падтрымку суверэнных дзяржаў былога СССР, але і самі дзяржавы не жадаюць прымаць бляшанкі з тушонкай і ношаныя рэчы. Просяць дапамогі больш дзейснай, напрыклад, тэхналогіямі. І ў гэтым сэнсе прыезд на Беларусь Міхася Белемука з Кліўленда можна лічыць першым крокам на шляху да больш сур'ёзных узаемаадносін паміж Беларуссю і ЗША. Міхась Белямук з'яўляецца заснавальнікам калоніі беларусаў у Кліўлендзе, аб'яднання маладых беларусаў ЗША, выдаўцом культурна-асветніцкага часопіса "Полацак". Але што самае галоўнае – паўнамоцным прадстаўніком (на час вандроўкі) губернатара штата Агайо.**

**– Дзядзька Міхась, з якой мэтаю вы прыехалі на Беларусь, чым плануеце займацца?**

— Мэты мае можна падзяліць на прыватныя і афіцыйныя. Пачну, відаць, з прыватных — яны для мяне больш прыемныя. Па-першае, даўно хацелася наведаць Бацькаўшчыну. Я чалавек ужо немалады і невядома, ці пашчасціць яшчэ калі пабачыць зямлю свайго дзяцінства. Па-другое, я ўжо шмат год вяду перапіску з тымі беларусамі, якія блізкія мне па поглядах і памкненнях. Гэта такія адраджэнцы, як Чарняўскі, Штыхаў, Цітоў, Ермаловіч. І я хацеў пабачыць і прыватна пазнаёміцца з тымі, каго я ўжо даўно ведаю па перапісцы. Але ёсць і афіцыйныя мэты майго прыезду. Пасля таго, як Беларусь набыла палітычную незалежнасць, узнікла надзённая неабходнасць набыцця ёю эканамічнай незалежнасці і стабільнасці. Для гэтага, на мой погляд, неабходна дапамагчы Беларусі ўвайсці ў міжнародны сусветны гандаль. Неабходна гэта і для таго, каб вам не стаць проста дадаткам да развітых заходніх дзяржаў, пастаўшчыком таннай сыравіны і працоўнай сілы. Мы вырашылі дапамагчы вам стварыць умовы для гандлю вашымі таварамі на заходнім рынку. За апошнія некалькі дзён я меў шмат сустрэч у розных міністэрствах. Сустракаўся з міністрам замежных спраў Беларусі Краўчанкам. І мы ўжо вызначылі канкрэтныя прапановы, выконваць якія пачнём у бліжэйшыя месяцы.

**– Але ж пануе такое меркаванне, што прадукты нашай вытворчасці маюць значна ніжэйшую якасць, чым заходнія?**

— Вымушаны з гэтым не пагадзіцца. Узяць, напрыклад, "Белавежскую" гарэлку. Па сваіх смакавых якасцях, па паху яна нашмат перавышае віскі, якія прадаюцца зараз у Амерыцы. Але ж Амерыка мае багаты выбар — больш за 120 сартоў віскі стаіць на паліцах яе крам. Мы думаем запрапанаваць амерыканскім магазінам першую партыю "Белавежскай" для продажу і, калі гандаль пойдзе паспяхова, мяркуем наладзіць пастаянныя пастаўкі гарэлкі ў Амерыку. Другі тавар, на які мы звярнулі ўвагу, — ільняныя вырабы. Сёння ў Амерыцы адыходзіць мода на сінтэтычную тканіну, і калі своечасова наладзіць пастаўкі добрай і якаснай ільняной прадукцыі з Беларусі, дык можна мець вялікі прыбытак. Адразу пасля свайго прыезду ў Кліўленд я мушу дасылаць на тэкстыльныя фабрыкі Беларусі ўзор тых расфарбовак і фасонаў, якія больш падабаюцца амерыканцам, для таго, каб ваша прадукцыя адпавядала ўсім патрабаванням не толькі па якасці, але і па густах. І апошняе, на чым мы спынілі свой выбар, — гэта драўляныя вырабы, дасланыя з Бярэсця. Выдатныя шкатулкі з цудоўнай інкрустацыяй і расфарбоўкай, я ўпэўнены, будуць мець камерцыйны поспех. Акрамя таго, гэта будзе і дадатковая праца людзям: мы плануем вывозіць на продаж вялікія партыі.

**– Дзядзька Міхась, як вы мяркуеце, на што пойдзе прыбытак?**

— Па нашых умовах, заробленая валюта пойдзе на пабудову санатарыяў, дзе будуць лячыцца дзеці з пацярпеўшых ад аварыі на ЧАЭС зон, на аднаўленне вытворчасці і іншыя справы, якія дапамогуць Беларусі выйсці на сусветны рынак і выпускаць добрую і якасную прадукцыю. Да таго ж гэта павысіць узровень жыцця беларусаў.

**– Але, згадзіцеся, значна лягчэй сядзець у закуточку і чакаць, пакуль заходнія краіны выдзеляць нам нейкую фінансавую дапамогу, на якую мы і будзем будаваць санаторыі і г.д.?**

— Усё, што адбываецца сёння, — гэтыя самалёты з ежай, адзеннем, падобна да жабрацтва. Мы, беларусы Кліўленда, не жадаем, каб да Беларусі ставіліся, як да краіны жабракоў. Губернатар нашага штата, славенец па паходжанню, падтрымаў нашыя думкі і нашыя ідэі, і мы вырашылі наладзіць пастаянныя кантакты паміж Беларуссю і штатам Агайо. Тым больш, што яны вельмі падобныя па сваіх эканамічных накірунках развіцця. На заканчэнне свайго візіту тут я мяркую сустрэцца з прэм'ер-міністрам В.Кебічам і хачу запрапанаваць яму падпісаць афіцыйную згоду паміж штатам і вашай краінай. У любым выпадку кантакты будуць, яны будуць пашырацца і павінны прынесці выгаду як Беларусі, так і нашаму штату.

**Зміцер Лукашук.**

# Перыяд вакханаліі

**Той, хто сачыў за публікацыямі Ул.Лемеха ў №№ 6-7 "ЧЗ", не мог не адзначыць арыгінальнасці яго разважанняў. Параўноўваючы нашу дзяржаву з вялікім калгасам, Лемех разважаў, якія функцыі ў ім выконваюць грошы і падаткі, цэны і занятасць. Сёння – заканчэнне гаворкі.**

**• ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ** — новаўвядзенне, з якім звязваюць вялікія надзеі на развіццё гандлю і бізнесу.

Наменклатура ўжо даўно занялася прыватызацыяй абаротных сродкаў. Прыватны і кааператыўны сектары, савецкія біржавікі (асабліва маскоўскія) таксама маюць немалыя назапашванні саўзнакаў.

Увогуле пэўная частка "адзінага" калгаснага калектыву гатова перайсці да калгаснага рынку.

Радавым калгаснікам прыватызацыю не зразумець. Вопыт мінулага падказвае ім, што дурылі іх раней, дураць цяпер і з прыватызацыяй надураць. Дый не тыя ў іх фінансавыя магчымасці.

Глыбока памыляюцца тыя, хто лічыць, што прыватызацыя ліквідуе стары дзяржаўны лад, які ў нас называецца Савецкай уладай. І маюць рацыю тыя, хто з непадробным жахам думае аб вакханаліі вакол маёмаснага падзелу, калі разам з калгаснікамі з'явяцца калгаснікі-капіталісты, бізнесмены, біржавікі, г.зн. калгасны капіталізм.

Прыватызацыя ў сістэме калгаснага дзяржаўнага ладу магчыма, але яе мэта зусім у іншым: аптымізаваць і пераразмеркаваць занятасць калгаснікаў паміж грамадскай і індывідуальнай (сямейнай) вытворчасцю без права свабоднага гандлю і канкурэнцыі апошняга з грамадскім сектарам вытворчасці. Па заходніх мерках гэта зусім не прыватызацыя.

Прыватызацыю па заходняму ўзору (акцыяніраванне, продаж і г.д.) немагчыма выканаць, бо адсутнічаюць грошы — індыкатар кошту рэчы. Прыватызацыя, якая базіруецца на савецкай грашовай сістэме (рублі) абсурдная, бо грошы-боны прызначаны не для куплі-продажу або гандлю маёмасцю. Саўзнакі — гэта перш за ўсё працоўныя грошы. А вось камерцыйныя, гаспадарчаразліковыя грошы, грошы чорнага рынку чакаюць прыватызацыі. Яны здольныя нанесці смяротны ўдар рублю-бону і зменшыць тым самым каштоўнасць працы ў грамадскай гаспадарцы да катастрафічнага ўзроўню. Камерцыйна-гасразліковыя грошы, фальшывыя грошы. Іх вартасць бачна паўсюль. Так за 1—2-пакаёвую кватэру запатрабуюць сёння 1—5 мільёнаў рублёў.

Прыватызацыя і саўзнакі як агонь і вада. Балансавы кошт маёмасці вытворчых падраздзяленняў калгаса (прадпрыемстваў) паказаны ў рублях,— гэта кошт, у якім няма рэальнага грашовага эквіваленту. Рубель камерцыйны, рубель біржавы — гэта іншы рубель і ён патрабуе іншай цаны.

Такім чынам, прыватызацыя на Беларусі не перадумова ліквідацыі існуючага дзяржаўнага ладу, а яго вынік.

**• КАМЕРЦЫЙНЫЯ БАНКІ**

Стварэнне камерцыйных (гасразліковых) банкаў, заснавальнікамі якіх выступаюць буйныя дзяржаўныя падраздзяленні і іх ведамствы, адлюстроўвае этап "капіталізацыі" савецкай эканомікі. У гэтай праблеме можна выдзеліць два аспекты: юрыдычны і эканамічны.

Камерцыйная дзейнасць прадпрыемстваў, якія маюць статус падраздзяленняў калгаснай вытворчасці, адлюстроўвае чарговы юрыдычны нонсенс. Так званыя заснавальнікі самі не маюць заснавальнікаў і правапераемнасці, і таму правы той ці іншай службовай асобы распараджацца ад імя прадпрыемства свабоднымі грашовымі сумамі пазбаўлены ўсялякага сэнсу. Гасразліковая дзейнасць не мае норм асабістай маёмаснай адказнасці пры ажыццяўленні здзелак.

Эканамічным вынікам камерцыялізацыі грошай-бонаў з'яўляецца павелічэнне працэнтных ставак за крэдыт, і як вынік — рост цэн, падзенне рэнтабельнасці інвестыцый. Дзяржаўная бухгалтэрыя, страціўшы частку грошай, зніжае аб'ёмы цэнтралізаваных фандуемых капітальных укладаў у будаўніцтва. Рубель-бон у пагоні за нормай прыбытку (працэнт за крэдыт ужо дасягнуў 20—25 працэнтаў) ставіць пад пытанне рэспектабельнасць інвестыцый і зваротнасць крэдыту, калі яна ідзе ў сферу матэрыяльнай вытворчасці. На змену формуле Г-Т-Г+Г (зроблена на падставе вядомай усім высновы: грошы-тавар-грошы), дзе Г — прэмія за працу, прыходзіць формула Г-Г+Г, у якой Г — вынік публічнай спекуляцыі калгасным абаротным капіталам.

**• ВЫВАДЫ.** Калгасная вытворчасць і існуючы дзяржаўны лад стаяць на развілцы каля трох дарог.

Адна дарога вядзе да аптымізацыі ўнутрыкалгаснай дэмакратыі, занятасці работнікаў у грамадскай і прыватнай вытворчасці. Прыватны сектар калгаса ў структуры вытворчасці і паслуг пачынае займаць большую ўдзельную вагу, чым раней. Уся дзейнасць дэмакратычна выбранага праўлення накіроўваецца на гарманізацыю ўнутрыкалгасных працоўных адносін на аснове ўласнай зацікаўленасці калгасніка. Знімаюцца ўсялякія абмежаванні на памеры ўласнай падсобнай гаспадаркі, а занятасць "на сябе" ўключаецца ў грамадскую занятасць. Як вынік, у работніка з'яўляецца магчымасць выбару ў межах калгаснай структуры кіравання.

Дадзены шлях не вядзе да рынку і капіталізму, але ён супыняе развал калгаса.

Другі шлях, выбраны намі, вядзе да развалу калгаснай сістэмы на аснове ўкаранення рынку ў савецкі дзяржаўны лад, калгасна-саўгасную сельскую гаспадарку. Тут разам з грамадскай сістэмай калгасных каштоўнасцей узнікае праслойка калгаснікаў-псеўдападпрымальнікаў, ствараюцца лжэбіржы і іншыя элементы рынку на савецкі лад.

У выніку элементы адзінай калгаснай сістэмы ўступаюць у супярэчнасць, страчваюць звычайную дапасаванасць. Адбываецца паступовы развал сістэмы, што не вядзе да стварэння новага дзяржаўнага ладу і гаспадарчага ўкладу жыцця.

Трэці шлях вядзе да ліквідацыі старога дзяржаўнага ладу і калектыўнага спосабу вытворчасці, да заснавання грамадзянскага таварыства і прадпрыемстваў, нацыянальнай валюты і г.д. Гэта шлях у будучае Беларусі.

Каб пайсці па гэтаму шляху, патрэбна не так ужо і шмат:

1) стварыць ліквідацыйныя камісіі ў цэнтры і на месцах, устанавіць ліквідацыйны перыяд (1—3 гады) па ліквідацыі калгаснай сістэмы вытворчасці тэрытарыяльна-ведамаснага кіравання;

2) задаволіць усе прэтэнзіі крэдытораў за кошт існуючых грашовых сродкаў дзяржавы, выявіць дэбіторскую запазычанасць;

3) у ліквідацыйны перыяд павінны спыніць сваю дзейнасць органы Савецкай улады (абл- і райвыканкомы, сельскія Саветы), Вярхоўны Савет, цэнтральны ўрад і яго ведамствы;

4) у ліквідацыйны перыяд патрэбна правесці заснаванне органаў мясцовага самакіравання і падраздзяленняў грамадскай вытворчасці.

Ацэнка калгаснай маёмасці павінна ажыццяўляцца на аснове ўласнай нацыянальнай валюты або сертыфікатаў, якія павінны быць у будучым абменены не на рублі, а на новыя грошы;

5) закрыць калгасныя касы і бухгалтэрыі, выдаць пайкі, разарваць усе працоўныя адносіны з калгаснікамі. Калгаса няма, значыць няма і калгаснікаў;

6) правесці выбары ў прадстаўнічыя органы новай улады на аснове новага выбарчага права і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Дзейнасць ліквідкомаў гэтым не абмяжоўваецца. Існуе яшчэ шмат функцый практычнай, распараджальнай і выканаўчай працы, якую нельга акрэсліць адной газетнай публікацыяй. Але думаю, што ідэя непрымусовай змены існуючага дзяржаўнага ладу будзе зразумела чытачам, бо кожны дзень мы адчуваем на сабе яго згубны ўплыў.

**Ул. Лемех,
эканаміст.**

**Ад рэдакцыі:** Высновы, безумоўна, спрэчныя. Хто будзе ўваходзіць у гэтыя "ліквідкомы"? Каму яны будуць падпарадкоўвацца? Шмат пытанняў застаецца нявырашанымі. Дый увогуле, усё гэта нагадвае 1917 год. Але ці мажліва бальшавіцкімі метадамі пабудаваць квітнеючае, дэмакратычнае грамадства? Мэта ў такіх выпадках не спраўдвае сродкі. А што вы, шаноўнае спадарства, думаеце на гэты конт?

**Фота С.Брушко.**



*Лапцевая пошта*

# Пра тое, як я сам у сябе хату купляў

ЛІСТ ДРУГІ

*Дабрадзень, шаноўныя рэдактары!*

*Найпярвей хачу вам аддзячыць добрым словам за тое, што караваю маёю пісанінаю не пагрэбавалі, а наштампавалі яе ў газеце ў вельмі культурным выглядзе. Дай вам Бог вялікага тыражу на многія лета.*

*Цяпер жа распаведу пра сваё гора пакутнае, і няхай яно запаліць у добрых вашых душах іскрынку спагады ды пральецца гаруча-змазачнай слязінай спачування.*

Колькі месяцаў, як сканаў мой дарагі і адзіны кот Беламор Каналавіч, як застаўся я больш адзінокі, чым мокрая ануча, жыць у роднай хатцы, нібы ў прымах. А чаму ў прымах — таксама вам абтлумачу. Толькі ж, не спяшаючы раней бацькі ў пекла, буду пра ўсё распавядаць па парадку.

Сканаў, значыцца, мой кармілец дарагі дачасна і нечакана, нат не паспеўшы яўкнуць пра тое, як мне далей жыць ды горачка гараваць. Вось тут і сербануў я таго горачка нагбом ды на поўную катушку.

Адзін паратунак — не давялося мне нябожчыку новага адзення купляць, бо спрытную шубу з натуральнага футра мой каток надыбаў сабе даўно, яшчэ калі ўсё сацыялізм развівалі ды ўдасканальвалі. І надыбаў не якую-небудзь шырспажывецкую, бо зносу ёй не было — вячніна.

Кінуўся я ў роспачы труну шукаць, у раён кінуўся. А там на мяне як на марсіяніна пазіраюць і надзівіцца не могуць:

— З якога ты, чалавеча, стагоддзя?— пытаюцца.

Аказваецца, на раён зараз выдзяляюць усяго адну труну, дый тую ўстанаўліваюць для доступу ў мясцовым краязнаўчым музеі, каб, значыцца, людцы хадзілі на экскурсіі ды глядзелі, ды не забываліся, як дамавіна выглядае. А службы пахавальныя — хто іх ведае, чым цяпер займаюцца? Мо асвойваюць серыйны выпуск японскіх прысервацываў — спецыяльна для нябожчыкаў, а мо заняліся зборам інфармацыі пра зомбі? Дзякаваць Богу, было ў суседа тры дошкі, а на калгаснай пілараме тры хлопцы-малойцы, дык не застаўся мой дарагі каток пад плотам на атамы раскладацца.

Ды адна бяда не ходзіць. Успомніў я, дарагія рэдактары, мудрыя словы: галасі, а гарэлку насі. Успомніў пра памінкі і паехаў па гарэлку. Праўда, кабета за прылаўкам расчулілася, добрая душа, мэнтам адпусціла мне паложаныя дзве скрыні беленькай ды адну чырвоненькай. А як стаў расплачвацца, тады сам напачатку чырвоненькім зрабіўся, апасля беленькім. Карацей, расплачваўся я расплачваўся, дый расплакаўся. Бо не так за катка, як за дзяржаву балюча стала. Хаця ж бо яна на маім горачку свае фінансавыя бязглузды папраўляла, хаця пабагацела б. А ці ж я вечарынку ўдумаў ладзіць, што мяне сярод бела дня родненькая дзяржава нагала распранула?

Няма чаго й казаць, што па сервеблат, які так любіў мой каток, я ўжо й не ехаў. Бо не да жыру — быць бы жыву.

Ну, ды хутка казка кажацца, ня хутка стол жалобны робіцца. Аплакаў я свайго каточка, людзі прыхінуліся. І ўсё як у людзей было.

Пайшоў назаўтра ж у сельсавет пасведчанне аб смерці выпісваць. А там цёткі такія спагадлівыя ды разумныя — глыбока да сэрца маю жалобу прынялі. І будуць яны мне казаць:

— Маліся, чалавеча, Богу, што вы з Беламорам Каналавічам на дзень яго смерці сумесна пражывалі і агульную гаспадарку вялі. А то адсцягнуў бы ты за сваю хатку грошыкі і немалыя.

Мяне, ці паверыце, як абухом хто па цемечку ўдарыў. Думаў, грэшная справа, няйначай зараз другія хаўтуры будуць людзі ладзіць.

А цёткі і далей мяне, цёмнага, адукуюць, раскрыўшы гаспадарчую кнігу.

— Ага, Беламор Каналавіч у вас галавой сям'і быў. А гаспадарка ваша служачая.

— Нягож,— ківаю галавой,— каторы гадок нам служыць верай і праўдай.

— Ды не,— пасміхаюцца,— проста калі б ваша падвор'е калгасным было, то яно зараз аўтаматычна да цябе перайшло б, а як служачае — толькі праз натварывус.

А мой Каналавіч да пенсіі нейкім дробным чыноўнікам служыў у прам-мышпроме.

Узяў я даведку патрэбную, пайшоў да таго натварывуса. А той мне й будзе казаць:

— Табе, даражэнькі, найпярвей трэба шыбаваць у бюро тэхнічнай інвен...венцілізацыі, каб да сваёй хаткі прыцаніцца.

— Як гэта прыцаніцца?— не веру. Ды ёй цаны няма, родненькі.

А сам сабе й думаю: ці то я ад горачка з глузду з'ехаў, што во хату сам у сябе купляю, а ці ў дзяржавы не ўсё ў парадку з галавою?

А натварывус мне тлумачыць:

— Пашпарт такі выпішуць тваёй хатцы, як во ў магазіне цэннік навешваюць, пасведчанне...

А! Дайшло! Значыцца, і хатцы маёй зараз пасведчанне аб смерці выпісваць будуць.

Паклыпаў я ў тую венцілізацыю і давай пашпарт прасіць.

— Што ты, чалавеча,— спачуваюць,— мы перабудаваліся ўжо. За пашпарт цяпер семдзесят рублёў бяром. Ідзі-шка ты ў зербанк, аплаці чэк, тады й прыходзь. Выдадзім табе хоць сем пашпартоў.

Вось дык венцілізацыя!.. Лэп я за кішэню — а яна пустая. Добра, успомніў, што мне каток яшчэ пры жыцці капейчыну завяшчаў. Капейчына тая — кот наплакаў, на смертачку ўсё збіраў. Але на бязрыб'і — і рак рыба. Весялейшы, чашу я з тае рэкетызацыі ў зербанк. Паглядзелі там на мяне, паспачувалі і давай





струкцыі чытаць. Чыталі-чыталі — вычыталі.

— Трохі табе, чалавеча, — кажуць,— грошай дамо, але не ўсе, бо ёсць такі спецратунак, на які простае смяротнае завяшчанне не дзейнічае.

А гэта, аказваецца, той самы спецратунак, на які можа помніце, летась Паўлаў, калі ў красавіку абманны дзень наладзіў, дык сорак працэнтаў нашых грошыкаў перакінуў. Перакінуць перакінуў, а ў струкцыі не было калі яму дужа ўдавацца. Самі ведаеце — справы ў яго былі вельмі важныя, дзяржаўныя. Ды неўзабаве зімачка прыйшла, вось і замарозіўся той ратунак. Няведама, калі яшчэ растане...

Ці вы там ня чулі, даражэнькія рэдактары? Тут людзі баюць, нібыта цяпер аж да самога Паўлава трэба ісці, каб асабіста напісаў завяшчанне — тады і грошы выдадуць?

А ці ж нас, смяротных, пусціць хто ў тую іхнюю цішыню матроскую? Тут, калі і трапіш, крый Божа, з пахмелля ў каталажку, там табе такую "цішыню" наладзяць — доўга сам сябе чуць не будзеш. Ну што ж, Богу Богава, а Паўлаву Паўлава.

Ці паверыце, родненькія, як пахаваў я свайго дарагога каточка ды як нахадзіўся, нібы Марка па пеклу, дык самому надоўга паміраць расхацелася. Божа барані цяпер паміраць! У горадзе вунь метал скончыўся і абгароджы на могілкі не робяць. Будзеш ляжаць, як дурань, сярод поля. І хто той метал паеў? Хіба палякі? А на помнікі чаргу ўстанавілі ажно да чацвёртага тысячагоддзя альбо да другога Прышэсця. Вось як спусціцца на зямлю Гасподзь праведны, як павылазяць нябожчыкі на страшны суд з магілак, тады і месцы вакантныя паявяцца, тады і помнікаў будзе, хоць гаць гаці. А што, калі да таго часу, у сувязі з рынкам, на нябожчыка падатак прыдумаюць: за развітанне — пачасовая, за яму ў сасонніку — ад метражу, за слёзы — ліміт на кожнае вока, а тое, што звыш ліміту — па прагрэсіўнай шкале.

А вы там усё пішаце, традыцыі аднаўляць, абрады. Ды мы б рады тыя абрады, каб толькі не гэтыя абірады...

Не, браточкі, вы сабе як хочаце, а я паміраць не збіраюся і вам не раю.

**Ваш Міхась ВАЛОХА з-пад Лепля.**

# ПАКУТЫ «ПАГОНІ»



*Эталон дзяржаўнага сцяга з навершнікам.*

## Вяртанне старажытных сімвалаў беларускага народа

Цікава, вельмі цікава жыць на пераломе гістарычных эпох. Калі ў 1978 годзе я разам са сваім сябрам, архітэктарам Сяргеем Багласавым змясцілі старадаўнюю "Пагоню" над эскізам аднаўлення і рэстаўрацыі Лідскага замка, ніхто з нас не мог нават падумаць, што праз нейкіх няпоўных 15 год яна стане візітнай карткай незалежнай Беларусі. Больш таго, мы былі вельмі засмучаныя, калі пад час друкавання нашага праекта адбудовы Лідскага замка ў архітэктурным часопісе, што выходзіць у Каўнасе, літоўская цэнзура зрэзала выяву "Пагоні" з усіх нашых фотаздымкаў.

А колькі намаганняў трэба было прыкласці, каб увесну 1991 года неўміручы вершнік, што заўсёды бараніў сваю Бацькаўшчыну, з'явіўся на бліскучым ветраніку (флюгеры), што аздобіў стромкі дах першай адноўленай вежы замка XIY ст. у Лідзе.

Зараз, пасля таго, як нашы старадаўнія герб і сцяг прызналі больш чым 70 краін свету, нельга не сказаць словы падзякі тым мастакам і навукоўцам, што маюць непасрэднае дачыненне да вяртання беларускаму народу яго некалі занядбаных святынь. Паколькі вялізная праца над распрацоўкай эталонаў герба, сцяга і пячатак Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ужо практычна закончана, хацелася б расказаць чытачам "Чырвонай змены", якія пільна і часам даволі крытычна сачылі за гэтай работай, аб асноўных яе ўдзельніках.

Апошнія дзесяцігоддзі наш старажытны герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг цяжка і пакутліва прабіваліся на свет Божы праз завалы невуцтва і нацыянальнага нігілізму. Партапаратчыкі пільна сачылі, каб ні ў літаратуры, ні ў мастацкіх творах, ні ў гістарычных даследаваннях і згадкі не было пра гэтыя спрадвечныя нацыянальныя сімвалы беларусаў. І тым не менш, праўда перамагла. Пытанне аб нацыянальнай сімводіцы, аб сцягу і гербе Рэспублікі Беларусь было ўнесена ў парадак дня верасnёўскай сесіі Вярхоўнага Савета. Напярэдадні гэтай сесіі па ініцыятыве парламенцкай апазіцыі на платформе БНФ з мэтай азнаямлення з гэтай тэматыкай народных дэпутатаў Беларусі ў фае перад парламенцкай залай Вярхоўнага Савета была разгорнута спецыяльная музейная выстава пад назвай "Герб і Сцяг". За стварэнне выставы ўзяліся мастакі Яўген Кулік, Уладзімір Крукоўскі, Мікола Купава і Аляксей Марачкін. У працэсе работы да іх актыўна далучыліся Лявон Бартлаў, Леў Талбузін, Тодар Ладуцька, Ігар Марачкін і Вячаслаў Дубінка. У кароткі тэрмін была выпрацавана канцэпцыя выставы (аўтар Я.Кулік), сабрана некалькі сотняў экспанатаў як гістарычнага, так і сучаснага айчыннага і замежнага паходжання. Выстава зрабіла значнае ўражанне на многіх дэпутатаў, станоўча паўплывала на вынікі галасавання. 19 верасня 1991 года "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг былі зацверджаны ўжо ў якасці дзяржаўных сімвалаў Рэспублікі Беларусь. Неўзабаве пасля гэтага, 4 кастрычніка 1991 года, Прэзідыум Вярхоўнага Савета стварыў Камісію па выпрацоўцы эталонаў дзяржаўнай сімволікі і атрыбутыкі (г.зн. герба, сцяга, пячатак, нагруднага знака і г.д.), а таксама нарматыўных дакументаў да іх. Узначаліць камісію было даручана мне. Камісія склалася з вядомых беларускіх гісторыкаў, мастацтвазнаўцаў, мастакоў, дызайнераў, народных дэпутатаў Беларусі. Сярод навукоўцаў варта адзначыць дактароў гістарычных навук Анатоля Грыцкевіча і Георгія Штыхава, кандыдата гістарычных навук Валянціна Голубева (намесніка старшыні камісіі), кандыдатаў мастацтвазнаўства Тамару Габрусь і Зянона Пазняка, кандыдата юрыдычных навук Марыну Сатоліну, а таксама выдатнага знаўцу беларускай геральдыкі Анатоля Цітова і старшыню Камісіі па культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Мінскага гарсавета Ігара Чарняўскага. Адначасова над эскізамі пачала працаваць група мастакоў (Л.Бартлаў, У.Крукоўскі, Я. Кулік, М.Купава, Л.Талбузін), якую курыраваў член камісіі, народны дэпутат Зянон Пазняк, мастацтвазнаўца і гісторык. Так склалася, што над эталонам герба ў асноўным працавалі Яўген Кулік і Уладзімір Крукоўскі. Эталон сцяга з навершам распрацаваў Мікола Купава. У працэсе працы каштоўныя парады і кансультацыі аўтары атрымалі ад вядомых беларускіх графікаў Арлена Кашкурэвіча і Уладзіміра Лукашыка, а таксама члена нашай камісіі, архітэктара, народнага дэпутата Лявона Зданевіча. Камісія шчыра дзякуе ім, а таксама ўсім, хто застаўся неабыякавым да нашай працы, выказваў як станоўчыя, так і адмоўныя заўвагі, асабліва, калі яны нясуць канструктыўны характар. Былі, вядома, і такія лісты, у якіх аўтары сцвярджалі, што "Пагоня" — гэта літоўскі герб, а бел-чырвона-белы сцяг прыдумалі фашысты. Такім "змагарам за справядлівасць" быў дадзены адказ 17 студзеня 1992 г. на старонках "ЛіМа" і "Навін Беларускай акадэміі".

Была і іншая крытыка, у якой аўтары падвяргалі сумненню асобныя дэталі эталона Дзяржаўнага герба. Шмат заўваг было выказана па форме крыжа на шчыце вершніка. Частка чытачоў "ЛіМа" і "Чырвонай змены" чамусьці аднесла самую старажытную выяву хрысціянскага крыжа на Беларусі (давайце ўспомнім крыж Еўфрасінні Полацкай!) толькі да праваслаўнай сімволікі, забываючы пры гэтым, што выява патрыяршага крыжа была вядома задоўга да падзелу хрысціянства на каталікаў і праваслаўных, і таму невыпадкова шануецца славакамі, якія належаць да каталіцкай канфесіі.

Студэнт гістфака БДУ Уладзімір Вяроўкін нават сцвярджае, што яму невядома ніводнай выявы "Пагоні" з патрыяршым крыжам. Я б параіў бы яму ўважліва прачытаць артыкул Г.Штыхава і Г.Галенчанкі "Пагоня" ("Сімволіка старажытнага герба", гл. "Навіны Беларускай акадэміі", 11 кастрычніка 1991 г.). Там, дарэчы, змешчана самая старажытная выява "Пагоні" на надмагіллі Ягайлы, якая і ўзята намі за правобраз сучаснага эталона герба. Вельмі пужае спадара Вяроўкіна і памер шпораў даўжынёй да 40 см. Каб не было так страшна, прапаную яму зірнуць на шпору, што знойдзена мною пад час раскопак у Лідскім замку.




*Лідскі замак. Шпора XVI—XVII ст. ст.*

Менавіта такая шпора намалявана на нашым гербе. Дарэчы, такую ж даўжыню, аднак з іншым колцам, маюць шпоры вершніка на гербе Літвы.

Шмат каму не падабаецца і выява каня. Як не згадаць тут думку В.Занежанкава (гл."Чырвоную змену" 27.01.—2.02.1992), які піша, што "нехлямяжыя беларусы пасадзілі рыцара на калгаснага лашака і кажуць, што гэта наш герб..." Самае цікавае, што нашы "калгасныя лашакі", якія так не падабаюцца некатарым гараджанам, вядуць радавод менавіта ад рыцарскіх коней, ад тых "грозных коней", пра якіх пісаў Максім Багдановіч. Так, мастакі на нашым гербе намалявалі бургуна—фламандскі тып каня, уласцівы для еўрапейскага рыцарства XIV— першай паловы XVI ст.ст. Дарэчы, менавіта такі конскі тып адлюстраваны на гербе БНР у 1918 годзе.

Пасля таго, як у Еўропе пашырылася агнястрэльная зброя, рыцары і шляхта перасeлі на лёгкіх коней, якія маюць іспанскі радавод, а сваіх баявых сяброў аддалі сялянам. Таму сучасныя конскія пароды першэроны і брабансоны, якія, на шчасце, захаваліся ў нашых вяскоўцаў, нягледзячы на хрушчоўскую экспрапрыяцыю, паходзяць ад тых баявых коней, на якіх баранілі Беларусь Давід Гародзенскі і Канстанцін Астрожскі.

Найбольш слушная заўвага была выказана на старонках "ЛіМа" спадаром Копцікам ("ЛіМ", 31 студзеня 1992 г.), які прапануе ў адпаведнасці з законамі геральдыкі зрабіць шчыт у вершніка чырвонага колеру. Так, большасць вядомых нам гербаў пабудаваны менавіта па такому прынцыпу, аднак ёсць і выключэнні. І мы мусілі пайсці на яго, бо чырвоны шчыт на чырвоным фоне развальвае каляровую еднасць герба. Гэта адчувалі і нашы продкі, якія, пачынаючы з XVI ст., часам змяшчалі залаты крыж на шчыце сіняга колеру. Па гэтаму шляху пайшлі і нашы літоўскія суседзі, якія 4 верасня 1991г. змянілі эталон свайго Дзяржаўнага герба: чырвоны фон шчыта замянілі на сіні. Мы выходзілі з таго, што ў старажытным апісанні "Пагоні" выкарыстоўваліся толькі два колеры: белы (конь) і чырвоны (вершнік на такім фоне). Пра колер шчыта ў старажытных хроніках нічога не сказана, а тым больш няма ні слова пра сіні фон для шчыта. Таму, каб захаваць гістарычную праўду і захаваць каляровую еднасць герба, было вырашана змясціць выяву залатога шасціканцовага крыжа на срэбным (белым) шчыце.

У канцы свайго допіса патрэбна звярнуцца да Задзіночання беларускіх студэнтаў і маладзёжнай арганізацыі "Выбранецкія шыхты", якія прапануюць наладзіць конкурс на лепшую выяву "Пагоні". Шаноўныя спадары! Зусім нялёгка праходзіла ў нашым Вярхоўным Савеце пытанне аб тым, каб нацыянальную сімволіку зрабіць дзяржаўнай. Успомніце, колькі самых недарэчных праектаў герба прапанавалі ў верасні мінулага года чытачы адной толькі "Звязды". Каб мы наладзілі конкурс ды вынеслі на Вярхоўны Савет некалькі розных варыянтаў, то, напэўна, апынуліся ў той незайздроснай сітуацыі, якая ўласціва зараз для Расіі, што пакуль не мае гістарычнага герба і карыстаецца савецкай сімволікай на сённяшні дзень. Кожны дзень існавання без дзяржаўнага эталона герба прыносіць і значныя фінансавыя страты, бо без выявы герба дзяржава існаваць не можа, а замена старых пячатак, бланкаў, шыльдаў і г.д. абыходзіцца ў значную капейку. Таму раю вам выкарыстаць сваю маладую энергію на канкрэтныя справы, накіраваныя на адраджэнне нашай Бацькаўшчыны.

А.А.Трусаў,
намеснік старшыні Камісіі
Вярхоўнага Савета Беларусі
па адукацыі, культуры і захаванню
гістарычнай спадчыны,
кандыдат гістарычных навук.




# БЕЛАРУСКІ КА



1/17 (лютага па ст.ст.) **Н. Ціран,** заступнік ад злодзеяў.

2/18 (лютага па ст.ст.) **Пн. *Масленіца, Масленка** –пачатак Масленічнага, Сырнага тыдня — восьмы тыдзень перад Вялікаднем. У некаторых раёнах цэлы тыдзень "гукаюць вясну".

4/20. **С. *Папелец[1],** пачатак Вялікага посту ў каталікоў. **Казімір** ("Святы Казімір дровы сякець і ў клад кладзець";"Казімера — дзень і ноч умера").

5/21. **Ч.*Крывы чацвер, Валосы, Улас** – свята жывёлы, культу язычніцкага Воласа, чацвер на Масленічным тыдні.

8/24. **Н.*Масленічныя загавіны,** апошні дзень Масленіцы. ***Гуканне вясны.**

9/25. **Пн.*Шыльны панядзелак, Паласказуб** – першы дзень Вялікага посту (7 тыдняў да Вялікадня).**Абертас, Паўраценне** – паварот птушак дадому.

10/26. **А. Сорак мучанікаў, Прыска, Пліска,** свята сустрэчы птушак ("На Прыска праб'е лёд і пліска").

11/27. **С. *Уступная серада,** першая серада Вялікага посту.

12/28. **Ч. Рыгор** ("На святога Рыгора ідуць ракі ў мора").**Васіль і Марына,** дзень абмежаванняў на прадзенне.

13/29. **Пт. Касьян.** Адзначалі толькі адзін раз у чатыры гады за тое, што ён, згодна з легендай, падпаліў Івану Хрысціцелю вусы.**Аўдоцця Вясноўка,** першы дзень вясны і жанчыны. Гуканне вясны.

14/1(сакавіка па ст. ст.) ***Зборная субота,** субота перад Зборам. Абрад "споведзі дзежкі".

15/2. **Н.*Збор, Ізбор,** пачатак збору селяніна ў поле; нядзеля першага тыдня пасля Масленіцы.

17/4. **А. Герасім Грачэўнік,** дзень прылёту гракоў.

18/5. **С. Конагароднік,** дзень падрыхтоўкі да пасадкі расады капусты.

19/6.**Ч. Язэп** ("Язэп кіўне барадою, дык зіма ўцякае ўніз галавою"; "Святы Язэп сярод посту шлюб дае прахвосту").

20/7. **Пт.** Астранамічны дзень вясенняга раўнадзенства.

22/9. **Н. Саракі** ("На Саракі прылятае сорак выраяў"), дзень сустрэчы птушак. **Пліска, Прыска.**

25/12. **С. Дабравешчанне, Звеставанне** ("У каго хлеба шмат — і Дабравешчанню рад").**Рыгор** ("На Рыгора зіма ідзе ў мора").

25/13. **Ч. Міжблагавешчыны** (да 7.04). Забарона на запасванне кароў.

30/17. **Пн.**Пачатак ***Крашчатага, Благавеснага тыдня,** чацвёрты тыдзень Вялікага посту. Пяклі "храсты" (пячэнне).**Аляксей Цёплы** ("На Цёплага Аляксея рыба ідзе на нераст, карова на верас, а бартнік на хвою").

---

* Зорачкай абазначаны каляндарныя дні, якія не маюць пастаяннага месца, а залежаць ад Вялікадня.

[1] Гэтак выдзелены святы і прысвяткі беларусаў-каталікоў.

**Алесь Лозка.**

**Малюнак Алены Шлегель-Лавецкай.**

# З ГІСТОРЫІ КАЛЕНДАРА

Слова "каляндар" паходзіць ад старажытнарымскага "календы" ("calendae"), што азначала: першыя числы кожнага месяца (дні маладзіка). Найменне адпавядае і слову "каляндарыум" — кніга, куды запісваліся даўгі, працэнты, па якіх патрэбна было плаціць, і маладзіковыя дні.

Месяцавыя ("лунные") меры часу — найстаражытнейшыя. Лік часу толькі па звароту Месяца, што існаваў у першабытным грамадстве, называўся месяцавым календаром. Дагэтуль захавалася ў побыце сялян завядзёнка — пачатак розных работ суадносіць з пэўнымі квадрамі Месяца: маладзік, веташок, падпоўня, поўня, зыход і г.д. Развіццё земляробства, жывёлагадоўлі прывяло першабытнага чалавека да карыстання і большымі храналагічнымі мерамі: сезонамі, гадамі. Так з'явіліся ў старажытным свеце сонечны і сонечна-месяцавы календары. Апошні ўжо змяшчаў некалькі месяцавых пораў (прыблізна 12,4). Праз шэраг гадоў дадавалі цэлую месяцавую пару, каб прыблізіць месяцавы год да сонечнага.

Чалавецтва на працягу свайго існавання ўдасканальвала меры часу, каб каляндар лепш адпавядаў астранамічнаму году. У 46 годзе да н.э. у Старажытным Рыме, дзе дзейнічаў складаны і нязручны сонечна-месяцавы каляндар, праслаўлены палкаводзец і ўладар Юлій Цэзар ажыццявіў рэформу ў летазлічэнні. Згодна з новаўвядзеннем, Новы год пачалі святкаваць з 1 студзеня, а працягласць года стала раўняцца 365,25 сутак. Эра вызначалася "ад стварэння свету" — у 5508 годзе да н.э. Так, напрыклад, 1993 год неабходна лічыць 7501 годам "ад стварэння свету" (5508 + 1993).

У VIII стагоддзі была прынята новая эра — ад нараджэння Ісуса Хрыста, 7 студзеня (25 снежня па старому стылю) нулявога года. Гэтую дату ўстанавіў, зрабіўшы складаныя разлікі, рымскі манах, папскі архіварыус Дзіянісій у VI стагоддзі.



Юліянскі каляндар адставаў ад астранамічнага года. За 128 гадоў набіраліся цэлыя суткі. Таму ў 1582 годзе рымскі папа Грыгорый XII, беручы за аснову праект Італьянскага ўрача, матэматыка і астранома Алаізія Лілё, правёў рэформу: 4 кастрычніка быў аб'яўлены 15-м і ўпарадкаваны высакосныя гады. Грыгарыянскі каляндар стаў больш дакладным і разыходзіўся ў адны суткі з астранамічным часам не за 128 гадоў, а за 3323.

Цяпер усе краіны ў міжнародных адносінах карыстаюцца агульнапрынятым сонечным грыгарыянскім календаром. Аднак ва ўнутраным і рэлігійным жыцці некаторыя выкарыстоўваюць месяцавыя і сонечна-месяцавыя. Так, у Паўднёва-Усходняй Азіі яшчэ папулярны старажытны цыклічны каляндар, які першапачаткова ўзнік у Кітаі. Ён сонечна-месяцавы і вядзе летазлічэнне не стагоддзямі, а цыкламі па 60 гадоў. Кожны цыкл складаецца з шасці 10-гадовых і адначасова пяці 12-гадовых перыядаў. Цікавыя народныя традыцыі цыклічнага календара захаваліся ў Кітаі, Японіі, В'етнаме, Бірме. Месяцавыя календары зберагліся ў мусульманскіх краінах. Сярод сонечных вядомы старажытнаегіпецкі, кумранскі, індзейцаў племя майя і іншыя.

Які каляндар існаваў у беларусаў? Як сведчаць археалагічныя знаходкі, усходнія славяне мелі рачыўныя календары — на іх язычнікі ўмоўнымі знакамі абазначалі дні свят і ігрышчаў, земляробчых работ. Акадэмік Б.А.Рыбакоў налічвае каля дзесятка сасудаў II—IV стагоддзяў, па якіх раней "чтааху" (лічылі) і "гатааху" (гадалі). Спецыяльнага даследавання на матэрыяле беларускіх знаходак пакуль не вядома. Акрамя гэтага, усходнеславянскія народы карысталіся драўлянымі брускамі даўжынёй 30—50 сантыметраў з трыма, чатырма ці шасцю гранямі, дзе рабіліся спецыяльныя ўмоўныя нарэзы. Да нас дайшлі народныя разныя календары, выробленыя паміж XII і XVIII стагоддзямі.

Яшчэ і цяпер у некаторых пажылых людзей захаваліся календары ў сшытках, дзе запісаны для памяці святы і прысвяткі — каляндарныя дні, што не святкуюцца, а толькі адзначаюцца.

Кожны дзень тыдня асэнсоўваўся таксама адносна мэтазгоднасці пачынаць тую ці іншую сельскагаспадарчую або сямейную справу. Існавалі яшчэ жаночыя і мужчынскія, посныя і скаромныя дні. Панядзелак — няўдачлівы, нешчаслівы, цяжкі. Не трэба пачынаць нічога важнага, напрыклад, сеяць, жаць, будаваць, выбірацца ў дарогу, выганяць першы раз кароў на пашу, снаваць кросны. Гэта мужчынскі дзень, "моцны". Таму ў некаторых раёнах садзяць агуркі, гарбузы, фасолю, каб былі моцнымі. У панядзелак не падкладваюць яйкі пад курыцу, каб не выводзіліся пеўнікі. Квасяць капусту. Аўторак — мужчынскі, удачлівы дзень. Пачынаюць усякую работу. Серада — няцотны, жаночы, посны дзень. Садзяць агародніну, нарыхтоўваюць капусту. Добры дзень "на маладзіку" для закладкі печы, хаты. Чацвер — мужчынскі, спрыяльны для ўсіх работ, акрамя пасадкі агародніны, загатоўкі сала. Лічыцца "чарвівым" днём (па гукавой асацыяцыі: чацвер — чэрві). Пятніца — жаночы, няцотны, посны дзень. У розных раёнах успрымаецца па-свойму: як шчаслівы, так і нешчаслівы. Можна выконваць многія работы ў годзе, асабліва "запасваць тавар" (кароў), сеяць, будаваць, "насаджваць" курыцу і інш. Гукавая асацыяцыя "пятніца-п'яніца" дзесьці зрабіла дзень нешчаслівым. Існуюць забароны на ткацтва і прадзенне, звязаныя з персаніфікацыяй пятніцы ў вобразе святой Параскевы Пятніцы. Субота — жаночы, цотны, апошні дзень. Шмат забарон і абмежаванняў на работы і найбольш у сувязі з тым, што "свет асноўваўся ў суботу". Можна сеяць лён і каноплі. Нядзеля — жаночы дзень. Нельга выконваць гаспадарчыя палявыя работы, але не забараняюцца хатнія. Варта пачынаць некаторыя сімвалічныя: першы выган жывёлы, першае ворыва, першы дзень будоўлі хаты. Забараняецца мыць дзіця і бялізну. Лічыцца, напрыклад, што ў гэты дзень з'яўляюцца на свет цялушкі, а не бычкі.

Вусны народны каляндар уключае багаты вопыт назіранняў земляроба над навакольным асяроддзем. Сюды ўваходзіць як сістэма размяшчэння пэўных каляндарных дзён, так і прыказкі, прыкметы адносна надвор'я і будучага ўраджаю, а таксама абрады, гульні і песні. Аднак самая цікавая з'ява тут — валачобныя каляндарныя песні. Яны — характэрная адметнасць беларусаў і іншым славянам амаль невядомыя. У паэтычных тэкстах, якія выконваліся на Новы год, Вялікдзень, малюецца радаснае веснавое свята, абуджэнне зямлі, велічаюцца і віншуюцца гаспадар і яго сям'я, паэтызуецца праца.






## Люты Бог

У апошні час на старонках перыядычнага друку даволі часта праводзяцца параўнанні Дзеда Мароза з Санта Клаусам. Але мала каму вядома, што гэта не тоесныя персанажы. Правобразам Санта Клауса з'яўляецца каталіцкі святы мучанік Клаус (Клаудзій), а правобразам нашага Дзеда Мароза — старажытнаславянскі язычніцкі бог Зюзя.

Праўда, па свайму знешняму выгляду Зюзя быў не вельмі падобны да сучаснага любімца дзяцей. Лысы дзядок у даўгаполым (амаль да зямлі) механым адзенні, заўжды босы. Што праўда, то праўда — была ў яго, як і ў Дзеда Мароза, доўгая барада і посах, зроблены з сасны. Але посах гэты быў такіх памераў і таўшчыні, што выкарыстоўваўся час ад часу ў якасці дубіны. Менавіта такім уяўляюць там-сям на Брэстчыне гэтага бога. Характарам жа ён адрозніваўся ад свайго "нашчадка" яшчэ больш, чым адзеннем. Калі Дзед Мароз — сама дабрыня, то Зюзя хутчэй злы. Ён любіў ператварацца ў велічэзнага снежнага мядзведзя і нападаць на адзінокіх падарожных. Зюзя-мядзведзь не раздзіраў сваю ахвяру, а навальваўся на яе ўсім цяжарам сваёй халоднай тушы і трымаў, аж пакуль здабыча не замярзала.

Даволі часта зладзейнічаў Зюзя не адзін, а са зграяй пакорлівых яму завірух. Іх Зюзя ператвараў у снегавых ваўкоў.

Наогул жа гэта быў змрочны, нелюдзімы бог, да таго ж вялікі жанчынаненавіснік. У Докшыцкім раёне Віцебскай вобласці сцвярджаюць, што нават багіня кахання і прыгажосці Лада ні'аднаго разу не змагла насдаць на яго каханне. Справа ў тым, што яна не пераносіла холаду і не магла наблізіцца да Зюзі на такую адлегласць, на якой дзейнічалі яе чары.

Больш за ўсё прыводзіць у шаленства Зюзю тое, што яго ўлада недаўгачасная, што яго зіму змяняе вясна. Менавіта таму найбольш лютуе ён у апошні зімні месяц. Ці не з-за гэтых яго дзеянняў і названы месяц? Ці не з'яўляецца назва "люты" эпітэтам бога Зюзі? На карысць гэтым меркаванням тое, што люты — адзіны месяц, назва якога па форме прыметнік. Усе ж іншыя, як вядома, назоўнікі.

Нашы продкі вельмі шырока адзначалі свята праводаў зімы — Масленіцу. У змененым (абязбожаным) выглядзе дайшло гэта свята і да нашых часоў. Яно, на наш погляд, прысвечана было таму, каб задобрыць бога зімы. Святкуючыя імкнуліся зрабіць так, каб у наступны свой прыход ён не сарваў на людзях сваю злосць. Больш таго, для свята майструюць пудзіла, якому даюць назву Масленіца. Рытуал спалення гэтага пудзіла з'яўляецца адным з галоўных элементаў свята. Тым самым людзі нібы жадаюць паказаць богу, што не маюць да яго ніякіх прэтэнзій, што ў траскучых маразах, у доўгіх завірухах і ва ўсіх іншых зімовых бедах яны вінавацяць не яго, а гэту "шкадлівую масленіцу". Больш таго, ведаючы адносіны Зюзі да жаночага полу, яны падкрэсліваюць, што іх незадавальненне выклікана дзейнасцю асобы жаночага полу, маўляў, "сам ведаеш, усе беды на зямлі ад гэтых баб". Але як толькі Зюзя ўступіць сваю ўладу, як толькі заляжа на летнюю спячку і нічога не зможа пачуць і ўбачыць, як толькі пачнецца вясна, дык гэтыя хітруны тут жа святкуюць "Гуканне вясны".

Да ўсяго вышэй сказанага трэба дадаць, што ў Зюзі, у адрозненне ад іншых багоў і багінь, няма ні прафесійных, ні ўзроставых, ні сацыяльных функцый. Ён з'яўляецца богам толькі прыроднай з'явы.

**Ірына Масляніцына,**
**Мікола Багадзяж.**

---

і падаецца працоўны каляндар селяніна ў храналагічнай паслядоўнасці. Руплівая збіральніца і даследчыца народнай паэзіі Л.М.Салавей называе валачобную песню "сапраўднай сялянскай паэмай, велічным гімнам земляробу і яго працы" і параўноўвае яе з паэмай Гесіёда "Турботы і дні".

Гісторыя змен у календары, звязаных з перанясеннем святкавання Новага года, няпростая. Рэформы натыкаліся на супраціўленне народа, які даражыў традыцыямі мінулага і не прымаў душою наваўвядзенні. Яскравых прыкладаў у беларускім фальклоры і абрадах аб святкаванні пачатку года восенню не заўважаецца. Магчыма, толькі некаторыя малапрыкметныя рысы таго захоўваюць Багач і Сямён. Адчуваецца, што мацнейшыя вясновыя і зімовыя традыцыі, якія пусцілі глыбокія карані ў свядомасці народа, не далі развіцца новай рэлігійнай абраднасці ў сялянскім побыце. Тая частка Беларусі, што была ў федэратыўным саюзе з Польшчай, у 1582 годзе перайшла на грыгарыянскі стыль. 9 студзеня 1584 года ў Вялікім княстве Літоўскім выйшла спецыяльная грамата, што прадпісвала адзначаць святы ў новым стылі. Аднак уніяцтва прынцыпова доўга карысталася старым календаром. У 1596 годзе пачынальнікі уніі Іпацій Пацей і Кірыла Тарлецкі зрабілі спробу пераводу на новы стыль, але яна была няўдалай. У сваю чаргу сінод Рэчы Паспалітай сваімі актамі неаднаразова прадпісваў меры пакарання тым, хто выкарыстоўваў стары стыль. А царскія ўлады ў далучаных беларускіх землях усталёўвалі стары юліянскі каляндар і жорстка расправіляліся з уніятамі.

(Працяг будзе).

---

## СТАЯЦЬ КАПЛІЦЫ







На здымках:

- Такім будзе помнік праз год.
- Руіны старой капліцы.
- Лявон Міхайлавіч НЕСЦЯРЧУК (злева) са старэйшым жыхаром вёскі Драбучын 95-гадовым Пятром Іванавічам ГАМШЭЕМ. Знаток народнай медыцыны, гісторык і краязнавец Пётр Іванавіч ахвяраваў на пабудову цэркваў у вёсках Гарадзечна, Мокрае, Мурава ўсе свае зберажэнні. У часы пагромаў цэркваў ён выратоўваў унікальныя царкоўныя рэчы, якія зараз вяртаюцца ў храмы.

Фота аўтара.

У далёкім 1912 годзе паблізу Пружан быў пабудаваны помнік-капліца ў гонар стагоддзя бітвы пад Гарадзечна ў Вялікую Айчынную вайну 1812 года. Памятная пліта гаварыла:"Доблесным продкам, загінуўшым у баі пад Гарадзечна". А ў пяцідзесятыя гады ў разгар барацьбы з рэлігіяй капліца была разбурана. І ад сціплага помніка ў гонар перамогі Трэцяй Рускай арміі генерала Аляксандра Тармасава над аўстра-саксонскімі карпусамі напалеонаўскай арміі засталіся толькі руіны.

Цяпер яны адшуканы дзякуючы нястомнай працы ў архівах даследчыка гісторыі роднага краю Леаніда Міхайлавіча Несцерчука. Намеснік начальніка ўпраўлення народнай адукацыі Брэсцкага аблвыканкома прысвяціў далёкай гісторыі родных мясцін кнігу "Айчынная вайна 1812 года на Брэстчыне".

Адшукаўшы даўнейшыя чарцяжы і фотаздымкі капліцы, Л.М.Несцярчук прапанаваў аднавіць гістарычную рэліквію на Пружаншчыне. Грошы на гэтую высакародную справу ахвяравалі жыхары навакольных вёсак, мясцовы калгас імя Дзяржынскага, Брэсцкае панчошнае аб'яднанне, а архітэктурна-праектная творчая майстэрня "Брэстархпраект" падрыхтавала ўжо неабходныя праекты і чарцяжы.

Урачыстае асвячэнне помніка-капліцы адбудзецца восенню 1992 года ў дзень 180-годдзя бітвы пад Гарадзечна.

**Э.Кабяк (БЕЛТА)**

# ЛЮДЗІ І ПРЫВІДЫ

## Рэпартаж з наркалагічнага аддзялення Рэспубліканскай псіхіятрычнай бальніцы



*На першы погляд, тут усё, як у любой іншай бальніцы. Палаты, сталовая, тэлевізар. Толькі вось краты на вокнах і ўсе дзверы без ручак. Большасць пацыентаў таксама знешне нічым не адрозніваецца ад звычайных. Ёсць некаторыя, іх свае ж называюць "кончанымі". Адзін з іх, змучаны мужчына, гадоў сарака (як мне потым паведамілі, яму ўсяго толькі 27), шаркаючымі крокамі рухаўся па калідоры ўзад-уперад, утаропіўшыся кудысьці прама перад сабой і абсалютна не рэагуючы на навакольных...*

*Наркалагічнае аддзяленне Рэспубліканскай псіхіятрычнай клінічнай бальніцы.*

— Лютаму ворагу такой працы не пажадаю,— ці то жартам, ці то ўсур'ёз заўважае загадчыца аддзялення, маленькая танюткая жанчына з кароткімі светлыміваласамі.— Прыходжу сюды а восьмай гадзіне раніцы, пакідаю работу ў дзевяць вечара. Да канца працоўнага дня ператвараюся ў аднаклетачную істоту. Нé хапае часу ні на газеты, ні на тэлевізар, ні на сына. Вечарам толькі паспееш паесці, ужо засынаеш з кавалкам у горле

ЁН СЯДЗЕУ, згорбіўшыся, абапёршыся рукамі аб калені. Худы хлопец гадоў дзевятнаццаці. Як потым аказалася, яму 25 гадоў, ён вось ужо два гады жанаты і мае дзіця, дачку двух з паловай гадоў. У клініку яго прывезла міліцыя пасля таго, як яго знайшлі на кватэры ў адной жанчыны, дзе яны ўдваіх варылі "сена". Ён нешта няясна пляце ўрачу, што амаль не колецца, так, бавіцца толькі, не часцей чым раз у месяц. Паказвае мне "сцежку", участак вены барвіста-чырвонага колеру, цвёрды навобмацак ад пастаянных шматлікіх уколаў. Дзіма (так назавём гэтага хлопца):

– Мой бацька – буйны вучоны-фізік, наогул сям'я добрая. Ажаніўся я "па залёту", з-за дзіцяці. З жонкай зараз не падтрымліваю адносін амаль. Так, грашыма, бывае, дапамагаю. Калі б не дачка, мы б былі чужымі людзьмі.

– Калі ўцягнуўся ў наркотыкі?

– Гады два таму. Пазнаёміўся з добрай кампаніяй класных хлопцаў, разам ездзілі ў Вільнюс, рабілі дробны бізнес. Потым нехта прапанаваў мне ўкалоцца за кампанію. Я ўвесь час праводзіў з імі, перастаў начаваць дома, кінуў вучыцца, змяніў некалькі месцаў працы. Апошні час працаваў у кааператыве, шыў курткі, прадаваў. Сабраў каля 80 тысяч.

– Колькі з іх ужо патраціў на мак?

– Тысяч трыццаць, магчыма. У мяне на "кайф" у суткі можа пайсці рублёў 600, хаця гэта таксама ад настрою залежыць.

– Ці хацеў бы кінуць калоцца?

– Не. Я не веру ў дэградацыю і іншую лухту. Калі будзе патрэбна, кіну сам у любы момант. А пакуль... Калі б не было кайфу, даўно наклаў бы на сябе рукі.

– БОЛЬШАСЦЬ з пацыентаў аддзялення,– гаворыць урач,– лічаць сябе выключэннем з агульнага шэрагу наркаманаў. Кожны ўпэўнены ў тым, што ў любы момант здолее адмовіцца ад наркотыкаў, як толькі адчуе нешта кепскае. Але ўся бяда ў тым, што калі нешта кепскае здарыцца, яны ўжо не здолеюць гэта адчуць. Зніжаецца крытычная ацэнка свайго стану.

– Дзіма, а чым ты займаешся, калі не колешся?

– Ем або сплю.

– А потым?

– Калі грошы ёсць – дык зноў, а калі няма, значыць, трэба шукаць.

АДДЗЯЛЕННЮ пацыентаў у асноўным пастаўляе міліцыя. Бывае, яны зноў прыходзяць сюды самі, каб зняць ломку. Калі з-за адсутнасці грошай, ці з іншай нагоды яны не могуць дастаць наркотыкі, арганізм адразу ж рэагуе на гэта. Пачынаецца дэпрэсія, з'яўляюцца болі ў суставах, мышцах: панос, патлівасць. У аддзяленні здымаюць боль і нядаўні хворы просіць, каб яго неадкладна выпісалі, таму што ён абсалютна здаровы. Калі ён выходзіць з бальніцы, то пачынае шукаць сродкі або спосабы дастаць сабе "кайф".

– Прымусовае лячэнне не можа даць ніякіх вынікаў,– гаворыць дацэнт кафедры псіхіятрыі мінскага медінстытута Алег Уладзіслававіч Ліскоўскі.– З дапамогай прымусовага лячэння грамадства не столькі выратоўвае гэтых людзей, колькі ізалюе іх ад сябе. Лячэнне павінна ўяўляць сабой перш за ўсё доўгі працэс па перафарміраванню асобы. Гэтым павінны займацца не толькі псіхатэрапеўты, але і псіхолагі, педагогі, сацыёлагі. Неабходныя падтрымліваючыя структуры: таварыствы ананімных алкаголікаў, наркаманаў. І чалавек перш за ўсё павінен жадаць вылекавацца сам. Хаця, канешне, зараз, у перыяд такой палітычнай і эканамічнай нестабільнасці цяжка гаварыць аб нейкай сур'ёзнай, прынцыпова новай і сапраўды эфектыўнай сістэме лячэння наркаманіі. Для гэтага неабходны вялікія сродкі, падтрымка на ўзроўні дзяржавы.

Захапленне наркотыкамі пачынаецца, як правіла, з курэння анашы, якая сама па сабе моцнай фізічнай залежнасці не выклікае. Аднак малады чалавек,які паліць траўку для карэкцыі сваіх псіхалагічных праблем, у рэшце рэшт прывыкае да яе – памяншаецца вастрыня ўспрыняцця "кайфу", хочацца чагосьці больш моцнага. Рана ці позна ён "садзіцца на іголку".

У Беларусі ў асноўным распаўсюджана опіўная (мак) наркаманія. У гэтым выпадку фізічная залежнасць узнікае хутка, пасля адной-дзвюх ін'екцый. Яна моцная і захоўваецца на вельмі доўгі час. З прывыканнем да наркотыку адбываецца дэфармацыя асобы. Чалавек больш не цікавіцца кар'ерай, працай, вучобай, становіцца абсалютна абыякавым да сексу. Грошы для яго адыгрываюць ролю толькі як сродак атрымаць "кайф".

Сашу 23 гады. Ён скончыў восем класаў і ПТВ. Вучыўся пасрэдна. Пасля арміі працаваў вартаўніком. Маці няма, жыве з бацькам-алкаголікам. Любіць адзіноту, не верыць у людзей і каханне. Некалькі разоў імкнуўся скочыць самагубствам.

Анашу курыць з 17 гадоў. Паводле ягоных слоў, яна дапамагае яму быць упэўненым у сабе, менш увагі звяртаць на розныя паскудствы. Пасля курэння ён адчувае лёгкасць, свабодны палёт.

– Я не магу жыць у гэтым жудасным свеце і наркотыкі ніколі не кіну. Дзякуючы "траве" жыццё маё светлае і яркае.

На першы погляд, тут усё, як у любой іншай бальніцы. Але пацыенты тут падобны да прывідаў, што з-за пэўных акалічнасцей выпадкова аказаліся ў свеце рэальным. У свеце, ад якога яны так настойліва імкнуцца збегчы. Мне шкада гэтых людзей: яны нарадзіліся, каб не жыць...

Аляксей Краўчанка.
Фота С.Брушко.



Гісторыя аднаго забойства

# Дом на ўскраіне

I

Вёска Крамянец Лагойскага раёна захварэла некалькі год таму, калі ў неахайнай хацінцы на самым яе ўскрайку пасяліўся рабочы мясцовага саўгаса Яўген Р. разам са сваёй сужыцелькай Алінай П. Бо вёскі — як людзі: здароўе іх вялікіх і маленькіх арганізмаў вызначаецца жыццяздольнасцю асобных "клетачак" — ячэек грамадства. А дом Яўгена і Аліны аднавяскоўцы даўно абыходзілі бокам: ці ж гэта не прыкмета хваробы?

Соф'я Архіпаўна М., суседка Яўгена і Аліны:

— Жылі яны дрэнна, часта п'янствавалі, Яўген біў Аліну.

Альжбета Р., маці Яўгена:

— Прапівалі ўсе грошы і маёмасць. Бойкі і сваркі былі між імі пастаянна.

Аліна Р., яшчэ адна суседка:

— Аліна ўвесь час хадзіла з сінякамі. У мінулым годзе Яўген прыйшоў да яе на працу і збіў віламі...

Хоць шлюб Аліны і Яўгена не быў зарэгістраваны, займелі яны двух дзяцей: сына Сашу ў 89-м годзе і дачку Кацярыну ў 91-м. Пра тое, як "выхоўваліся" ў гэтай сям'і дзеці, сведчыць маці Яўгена:

— Аліна мала таго, што сама *піла, давала гарэлку дзецям*, каб "добра спалі"... Яўген і Аліна ніколі не мыліся самі, не мылі і дзяцей...

Начальніка крымінальнай міліцыі раёна Сцяпана Аляксандравіча Яраша тэлефонны званок разбудзіў на світанку 6 лістапада 1991 года. Хутка опергрупа прыбыла на месца здарэння — у хату Яўгена і Аліны. У твары міліцыянерам дыхнула цяжкім паветрам бруднага, запушчанага памяшкання, перамешаным з пахам крыві. Пасярэдзіне пакоя, на падлозе паміж раскіданымі рэчамі, ляжала мёртвая жанчына са слядамі шматлікіх пабояў і адной вялізнай — смяротнай — ранай на грудзях. Акрываўлены нож быў знойдзены непадалёку ад уваходу ў хату. Побач у дзіцячай калысцы спала маленькая дзяўчынка.

Сведка Соф'я Архіпаўна М.:

— Напярэдадні вечарам у наш магазін завезлі гарэлку, і я бачыла, як Яўген пасылаў па яе Аліну. А на світанку да мяне прыбегла яго маці са словамі: "Мой гад, фашыст, ідаць, забіў Алю..."

Сведка Альжбета Р.:

— 6 лістапада ў 4 гадзіны раніцы да мяне прыбег сын і сказаў, што Аліна зарэзалася. Калі мы разам прыбеглі ў хату, то я ўбачыла, што яна сядзіць на стуле ля акна, побач валяўся нож. Яна была ўжо мёртвая.

Судова-медыцынская экспертыза налічыла каля пяцідзесяці "кантактаў" цела Аліны з траўміруючымі прадметамі. На вопратцы Яўгена была выяўлена кроў, якая адпавядала групе крыві забітай. Акрамя таго, эксперты ўстанавілі, што Аліна была цяжарная.

Здавалася б, усё сведчыла пра тое, што забойства ўчыніў сужыцель жанчыны — Яўген Р. Аднак сам ён, затрыманы ў якасці падазраваемага, паказаў, што прачнуўся ў гэту ноч ад дзіцячага плачу і ўбачыў Аліну ўжо мёртвай. Але хата была зачынена знутры, чужых слядоў выяўлена не было. У хуткім часе быў дапрошаны брат Яўгена, які расказаў:

— Аліна піла больш, чым брат, ужывала нават сурагаты. Тое, што адбылося, я лічу, адбылося з-за гарэлкі, таму што Аліна мела моду хаваць ад Яўгена гарэлку ці проста красці, і за гэта ён яе пастаянна біў, а яна казала, што няхай лепей ён яе заб'е, чым яна прызнаецца...

Двое маленькіх дзяцей, якія засталіся без нагляду, былі здадзены ў дзіцячы дом: маці Яўгена не захацела браць іх да сябе, растлумачыўшы, што не ў стане даглядаць іх з-за сталага ўзросту.

II

Я наўмысна пабудаваў свой аповед пра гэта жудаснае злачынства на дакументах і сведчаннях. Бо цяжка дадаць што-небудзь да скупых радкоў міліцэйскіх пратаколаў. Следства па гэтай справе хутка будзе скончана. Наперадзе суд, які ўстановіць, ці забіваў Яўген Р. сваю сужыцельку. Мяне ж гэта даволі звычайная для нашага часу крымінальная гісторыя навяла на іншыя думкі. І галоўная з іх: дзе ж былі навакольныя людзі? Паводле слоў аднавяскоўцаў, усе прывыклі, што Аліна П. "ходзіць з сінякамі", што маленькія яе дзеці застаюцца нямытымі і амаль някормленымі. Саўгас, у якім працаваў Яўген, паспяшаўся прадставіць следству адмоўную характарыстыку на яго: працаваў дрэнна, прапіваў саўгасную маёмасць (за што і быў судзімы)... Навошта ж было тады даваць яму саўгасны дом, дазваляць заводзіць "пазашлюбную" сям'ю, ведаючы прытым, што і Аліну раней судзілі за крадзеж? Мне могуць запярэчыць, што ў нас вольнае грамадства і кожны сам выбірае, як яму жыць. Аднак чаму ж тады ніхто не прыйшоў на дапамогу хаця б дзецям гэтых душэўна і фізічна хворых людзей (спадзяюся, нікога не трэба пераконваць у тым, што алкагалізм — гэта хвароба)? Верылі ў тое, што самі "вылечацца"?

Вядома ж, я разумею, што пытанні гэтыя рытарычныя. І стаўлю іх таму, што ведаю адказ. І ўсе ведаюць: сённяшняя вёска прывыкла да п'янства, а значыць, прывыкла і да таго, што мужык можа "пад гарачую руку" пакалаціць жонку. Прывыкла да самагону, да ўсялякай атруты, бо "магазінная" гарэлка — па спісах, талонах, купонах. І калі цяпер першыя асобы дзяржавы ўжо не лічаць ганебным пахваліцца ўменнем глынуць пляшку-другую "Белавежскай", то чым пахваліцца вясковаму мужыку, які прывык "мачыць" і смутак, і радасць, і проста цяжкія будні? Самагонам, вытворчасць якога паранейшаму забараняе дзяржава? Ці дыхлафосам, калі няма самагону, бо апошні ж яшчэ трэба з нечага зрабіць? Скарацішы вытворчасць спіртнога, узняўшы на яго кошт, адначасова стварыўшы дзесяткі тысяч розных таварыстваў і камісій цвярозасці, на самай справе дзяржава і пальцам не варухнула, каб рэальна дапамагчы нашай пакуль часткова хворай на алкагалізм вёсцы. Калі раней дысцыпліну ў калгасах і саўгасах падтрымлівалі з дапамогай бізуна, то цяпер прыедзьце ў любы дзень у любую гаспадарку пасля абеду, палічыце, колькі сялян цвярозых... І гэтай вёсцы — рыначную эканоміку, прыватызацыю зямлі?! Ды ці не з глузду з'ехалі нашы палітыкі і эканамісты? Я не пра тое, што рынак і прыватызацыя нашай аграрнай рэспубліцы не патрэбныя; я пра тое, што спачатку трэба элементарна навесці сацыяльны парадак на вёсцы, у тым ліку вырашыць праблему "ціхага алкагалізму". Пакуль просты мужык не перайшоў на дыхлафос, сурагаты і гэтак далей.

Павел Сіманаў,
спецыяльны карэспандэнт
"Чырвонай змены".

*Лагойскі раён.*



ІНФА-КРЫМ

ІНФА-КРЫМ

## Смяротны канвеер

спыніла нядаўна віцебская міліцыя. На трох мясцовых прадпрыемствах — заводзе імя Кірава, аб'яднаннях "Рамбыттэхніка" і "Электравымяральнік"— мафія наладзіла падпольны выпуск зброі. У арсенале "прадпрымальнікаў" былі пісталеты, вінтоўкі, аўтаматы і нават гранаты. Зброя канфіскавана, вядзецца следства.

## Тэатральная сустрэча

Яе арганізавалі ў гарадскім пасёлку Крупкі ўладальніку машыны "Форд" некалькі злачынцаў, адзін з якіх быў пераапрануты ў міліцэйскую форму. Пагражаючы нажом, рабаўнікі прымусілі гаспадара пакінуць машыну і ўгналі б яе, калі б не сапраўдная міліцыя, якая затрымала няўдалых "акцёраў".

## На "белыя тапачкі"

У мінулым выпуску "Інфа-крыма" мы паведамілі пра выпадак, які здарыўся на адной з вуліц Мінска: рабаўнікі адабралі ў прахожай бабулькі 4 рублі. Аналагічнае здарэнне адбылося ў сталіцы на гэтым тыдні: на вуліцы Валгаградскай невядомы, пагражаючы фізічнай распраўй, адабраў у пенсіянеркі сумку з 7 рублямі. Хочацца пажадаць яму выкарыстаць гэтыя грошы сабе на "белыя тапачкі". Якраз хопіць.

